*—Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
15
ЛЮТАГА
1991 г.
№ 7 (3573)

ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.

КОШТ — 15 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)




# ТОЛЬКІ НЕ АБЫЯКАВАСЦЬ

## На пытанні карэспандэнта «ЛіМа» адказвае народны дэпутат СССР пісьменнік Алесь АДАМОВІЧ

**— Алесь Міхайлавіч, вы ўваходзіце ў камісію Вярхоўнага Савета СССР па Чарнобылю, мэта якой, сярод іншага,— устанавіць адказнасць тых ведамстваў і асоб, якія хавалі ад народа праўду аб маштабах трагедыі, яе прычынах і выніках. Зрэшты, вы, як вядома, з першых дзён пасля катастрофы займаліся ёй, шмат напісалі і сказалі аб гэтай трагедыі, яе ўроках. Днямі стала вядома аб распараджэнні Генеральнага пракурора Саюза Трубіна правесці дадатковую праверку фактаў, звязаных з утойваннем інфармацыі аб узроўнях радыяцыі ў пацярпелых ад аварыі раёнах. Як бы вы пракаменціравалі гэты крок?**

— Яго трэба было зрабіць ужо даўно. Думаю, дарэчы, што рашэнне пракуратуры было прынята не ў апошнюю чаргу пад націскам нашай камісіі. А вось наколькі далёка зойдзе ў сваіх высновах следства... Баюся, што ў выніку, як не раз было, да адказнасці прыцягнуць «стрэлачнікаў». Вы паглядзіце: тыя, хто бессаромна выдаваў дэзінфармацыю на самым высокім афіцыйным узроўні,— такія, як Ільін, Кандрусёў, Ізраэль — засталіся пры сваіх пасадах. Упэўнены, што яны і ім падобныя дзеячы будуць трымацца адзін за аднаго, абараняць свае карпаратыўныя інтарэсы да апошняга. Сценка пабудавана наймагутная. Ці ўдасца яе прабіць — цяжка сказаць. Многае залежыць ад рэакцыі грамадскасці.

Заўважу, што камісія Вярхоўнага Савета ставіць сёння пытанне аб адказнасці не толькі тых, хто хаваў інфармацыю, але, перш за ўсё, — сапраўдных віноўнікаў катастрофы. Трэба дакапацца да першапрычын. Дырэкцыя, тэхперсанал ЧАЭС, як цяпер стала ясна, сумленна выконвалі ўсе інструкцыі. І — панеслі пакаранне. Адказнасць павінны несці і тыя, хто складаў гэтыя інструкцыі, хто праектаваў атамныя станцыі ў Саюзе, а самае галоўнае— аўтары самой канцэпцыі АЭС тыпу Чарнобыльскай. Маю на ўвазе акадэміка Аляксандрава, які дагэтуль нават не пакаяўся за зробленае.

**— Мабыць, не ўсе ведаюць пра камітэт «Чарнобыль — дапамога», старшынёй якога вы з'яўляецеся. Калі ласка, колькі слоў пра гэтую арганізацыю.**

— Наш камітэт створаны пры Акадэміі навук СССР. Мы трымаем пастаянную сувязь з беларускімі навукоўцамі, якія займаюцца праблемамі радыяцыі, у прыватнасці — з членам-карэспандэнтам АН БССР В. Несцярэнкам, дырэктарам навукова-тэхнічнага цэнтра «Радыяметр». Гэты цэнтр зараз спрабуе наладзіць шырокую сетку кантролю за радыяцыяй у рэспубліцы з дапамогай удасканаленай апаратуры. Камітэт выдзеліў дзеля гэтых мэт мільён рублёў, купляем у Аўстрыі спецыялізаваны камп'ютэр, з дапамогай якога можна стварыць высокадакладную карту радыяцыйнага забруджання.

**— Апошнім часам узнікаюць усё новыя неўрадавыя арганізацыі, якія спрабуюць дапамагаць ахвярам Чарнобыля. Нядаўна, скажам, з'явілася яшчэ адна—«Зьніч». Ёсць, напрыклад, дзве арганізацыі з аднолькавай назвай «Дзеці Чарнобыля», кожная — са сваім рахункам. Ці на карысць гэта справе?**

— З камітэтам «Дзеці Чарнобыля», які ўзначальвае Г. Грушавы, у нас усталяваліся добрыя дзелавыя кантакты. Гэта надзейная арганізацыя, якая карыстаецца высокім аўтарытэтам за мяжой. Іх банкаўскі рахунак зафіксаваны ў Берліне. Я не хачу нічога кепскага сказаць пра астатнія дабрачынныя арганізацыі. Па-мойму, чым больш іх будзе, тым лепш. Але я не магу зразумець, калі члены адной арганізацыі пачынаюць абвінавачваць усіх «сапернікаў», прэтэндуючы на нейкую выключную сваю ролю. Гэта бянтэжыць і тых людзей за мяжой, якія хочуць нам дапамагаць. Яны пытаюцца: ну што вы за народ такі? Няўжо нават у час агульнай бяды вы не можаце дамовіцца між сабой?

**— Цяпер, у сувязі з падзеямі ў Прыбалтыцы, з абвастрэннем усёй унутрыпалітычнай сітуацыі, ці не знікла ў замежных краінах жаданне дапамагаць нам?**

— Не, тыя ж японцы, скажам, не збіраюцца адмаўляцца ад дапамогі Беларусі лекамі і сродкамі. На жаль, мы часта не гатовыя прымаць шчодрыя дары, праяўляем незвычайную абыякавасць. Нядаўна мяне адшукаў у Маскве прафесар з Таронта Чарлз Роўд. У яго нарадзілася ідэя ставарыць своеасаблівы «канвеер здароўя»: у Канадзе маглі б пастаянна лячыцца 15 дзяцей, пацярпеўшых ад Чарнобыля (на месцы тых, хто выпісаўся, прыязджалі б новыя). Са сваёй прапановай ён звяртаўся ў Камітэт аховы міру, іншыя афіцыйныя арганізацыі, але яму нават не адказалі. Думаю, нам удасца ўсё ж рэалізаваць гэтую ідэю.

Цікавая дэталь. Прафесар Роўд прыехаў у Маскву ў той час, калі праходзіў сумесны пленум Саюза кінематаграфістаў СССР і Расіі. Яны сталі фундатарамі фонду аховы галоснасці, які будзе дапамагаць дэмакратычнай прэсе, журналістам, пазбаўленым працы «за палітыку». Канадскі вучоны, як толькі дазнаўся пра гэта, адразу выказаў жаданне пералічыць у фонд частку сваіх сродкаў і нават арганізаваць падтрымку яго ў сваёй краіне.

**— А як вы і вашы калегі — народныя дэпутаты ад Саюза кінематаграфістаў СССР паставіліся да рашэння, прынятага на сумесным пленуме, байнатаваць ЦТ у знак пратэсту супраць яго манапольнай палітыкі, засілля цэнзуры і дэзінфармацыі?**

— Усе адназначна выказаліся за байкот.

**— У многіх на памяці вашы выступленні на апошнім з'ездзе народных дэпутатаў і рэакцыя на іх з боку вайскоўцаў. Ці выканаў палкоўнік Алксніс сваё абяцанне падаць на вас у суд?**

— Палкоўнік сам рызыкуе апынуцца на лаве падсудных. Наколькі вядома, яго збіраюцца прыцягнуць да адказнасці за дыфамацыю Чэха-Славацкая дзяржава.

Суда нада мной патрабуе «Военно-исторический журнал» на чале з генералам Філатавым. Ён нядаўна напісаў, што, калі ён чытае Адамовіча, дык разумее, чаму Сталін з падазрэннем ставіўся да некаторых партызан (!). Сёння многім хацелася б перайграць рашэнне суда, які адхіліў іск Шахаўцова ў абарону «гонару і годнасці» генералісімуса.

Зрэшты, усё не так проста. Я часта атрымліваю пісьмы ад мацярок салдат, што загінулі ў Афганістане. Аўтар аднаго ліста, які я атрымаў нядаўна, на поўным сур'ёзе піша, што палкоўнікі Алксніс і Петрушэнка ўратавалі нашых хлопцаў ад бойні ў Персідскім заліве. Вось так...

Думаю, калі б той працэс адбываўся сёння, рашэнне суда магло б быць зусім іншым.

**— Ваш артыкул «Так гаварыў кааператар» у «ЛГ», як мне здаецца, напісаны з большым запасам аптымізму. На жаль, вы не так часта выступаеце цяпер з публіцыстыкай. Разумею, што вашы грамадскія абавязкі, работа ў «Мемарыяле», абавязкі дырэктара інстытута кінамастацтва адбіраюць шмат сіл і часу. І ўсё ж не магу не задаць пытанне, якое цікавіць шматлікіх чытачоў, — аб вашых творчых планах.**

— Зараз я заканчваю працу над аповесцю «Венера, або Як я быў прыгоннікам». (Венера — жаночае імя, некалі даволі распаўсюджанае на Палессі). Аповесць плануецца да выхаду ў выдавецтве «Мастацкая літаратура».

**— Дзякуй за гутарку.**

Гутарыў Віталь ТАРАС.

ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

# НАВАТ І Ў ЛЕПЕЛІ...

## ВЫДАВАЛІСЯ НАВУКОВЫЯ ЧАСОПІСЫ ДА РЭВАЛЮЦЫІ. А СЁННЯ?

Хачу звярнуць увагу на адзін аспект арганізацыі сістэмы перыядычнага друку ў Беларусі, яго тэматычнай структуры, у прыватнасці, на выданне галіновых часопісаў па прыродазнаўчых навуках, медыцыне, сельскай гаспадарцы. Зазірнём у каталог перыядычных выданняў БССР на 1991 год (дарэчы, ён чамусьці пачаў друкавацца на рускай мове). Колькасць рэспубліканскіх, абласных, гарадскіх, раённых і ведамасных часопісаў і газет з кожным годам павялічваецца і сёння складае больш за 200 назваў. Гэта вельмі шырокае кола разнастайных выданняў, але галоўным чынам сярод іх прадстаўлены газеты грамадска-палітычнага характару. У адной Віцебскай вобласці выходзіць 21 раённая газета. А колькі варыянтаў назваў сярод раённых газет толькі са словам «камунізм»: «Знамя коммунизма» (Баранавічы), «Маяк коммунизма» (Бяроза), «Прамень камунізму» (Гарадок), «Трыбуна камунізму» (Чачэрск), «Агні камунізму» (Светлагорск), «Святло камунізму» (Мінск) і інш. Нават багатая фантазія стваральнікаў гэтых шматлікіх газет не дазволіла пазбегнуць паўтораў у іх назвах. Напрыклад, газеты з назвай «Зара камунізму» выходзяць у Пружанах і Бялынічах, «Сцяг камунізму» — у Полацку і Касцюковічах і г. д.

Колькасць галіновых выданняў па прыродазнаўчых, тэхнічных, медыцынскіх і сельскагаспадарчых навуках вельмі нязначная: 7 часопісаў па фізіка-матэматычных навуках, 3 — па біялогіі і хіміі, 2 — па тэхніцы, 2 — па сельскай гаспадарцы і адзін часопіс па ахове здароўя. Вось і ўсё.

Мне здаецца, што было б цікава параўнаць цяперашні стан галіновага перыядычнага друку з выданнем аналагічных часопісаў і газет у пачатку XX стагоддзя, ва ўмовах так званай рэакцыйнай палітыкі царызму. У Беларусі з 1901 па 1917г. было прыблізна 20 назваў перыядычных выданняў галіновага тыпу: 8 часопісаў сельскагаспадарчага профілю, 6 — па медыцыне, 3 — па балотазнаўстве, па адным часопісе па лесагаспадарчых навуках, чыгуначным транспарце і агульных праблемах прыродазнаўства.

Пераважнае развіццё ў Беларусі сельскагаспадарчай вытворчасці вымагала адпаведна выдання часопісаў па сельскай гаспадарцы. Тут былі «Записки Горы-Горецкого земледельческого института», якія выходзілі яшчэ ў пачатку XX ст., крыху пазней «Могилевский листок сельского хозяйства и охоты» (Магілёў, 1902 — 1904), «Сельскохозяйственная жизнь» (Віцебск, 1912 — 1915), «Саха» (Вільня, 1912 — 1913; Мінск, 1914), «Агрономический листок» (Віцебск, 1912) і г. д.

Распаўсюджваннем медыцынскіх ведаў у Беларусі займаліся часопісы «Минские врачебные известия» (Мінск, 1910 — 1915), «Врачебно-санитарная хроника Витебской губернии» (Віцебск, 1912 — 1915; часопіс выдаваўся і ў 1907—1911 гг., але нумары часопіса за гэты перыяд пакуль знайсці не ўдалося), «Ветеринарная хроника Витебской губернии» (Віцебск, 1912—1915) і г. д., а таксама працы і пратаколы пасяджэнняў медыцынскіх і санітарных таварыстваў. І менавіта таму ў дарэвалюцыйным Мінску, нягледзячы на адсутнасць у Беларусі вышэйшай медыцынскай школы, мінскія ўрачы былі на вышыні сусветнай навукі. У горадзе, як указвае адзін з даследчыкаў гісторыі медыцыны Беларусі А. Малчанаў, працавала нямала ўрачоў са ступенню доктара медыцыны, што сведчыла аб іх высокай кваліфікацыі. Сёння ў рэспубліцы выдаецца толькі адзін часопіс медыцынскага напрамку.

У 1912 — 1916 гг. выдаваўся першы ў Расіі часопіс па культуры балот — «Болотоведение», прысвечаны ў асноўным дзейнасці Мінскай вопытнай балотнай станцыі. Але яго змест быў значна шырэйшы: на старонках часопіса друкаваліся нават матэрыялы даследаванняў замежных вучоных. Праблемамі навуковага даследавання балот, іх выкарыстання ў сельскагаспадарчых і тэхнічных мэтах (што мела для Беларусі асаблівае значэнне з прычыны яе геаграфічнага месцазнаходжання) займаліся таксама такія выданні, як «Труды Минской районной опытной болотной станции» (Мінск, 1914 — 1916), «Труды болотного опытного поля Волынского губернского земства» (Мінск, 1914 — 1915). Трэба адзначыць, што цяпер у БССР часопіса такога профілю няма, «Научно-техническая информация по мелиорации и водному хозяйству» выконвае крыху іншыя функцыі.

Сярод сучасных галіновых выданняў шырока прадстаўлены часопісы па фізіка-матэматычных і хімічных навуках. У дарэвалюцыйны перыяд непасрэдна на тэрыторыі Беларусі выданняў гэтай тэматыкі не было. Аднак трэба ўлічваць, што ў разглядаемы перыяд горад Вільня з'яўляўся культурным і адміністрацыйным цэнтрам усяго Паўночна-Заходняга краю. Таму ў Беларусі шырока распаўсюджваліся многія выданні, якія друкаваліся ў Вільні.

Яшчэ ў 1860 г. астраном М. Гусеў пачаў выдаваць у Вільні першы ў Расіі спецыяльны матэматычны часопіс — «Вестник математических наук». Часопіс адыграў вялікую ролю ў развіцці матэматычных ведаў у Беларусі, у павышэнні кваліфікацыі настаўнікаў матэматыкі. У часопісе змяшчаліся таксама працы па механіцы, астраноміі, геадэзіі, фізіцы, фізічнай геаграфіі, бібліяграфічныя матэрыялы.

У 1900 — 1902 гг. у Вільні выходзіў штотыднёвік «Химик. Вестник химической технологии и лабораторной практики». Акрамя арыгінальных і перакладных артыкулаў, часопіс публікаваў рэфераты па аналітычнай, неарганічнай і арганічнай хіміі, па хімічнай, цукровай, фарбавальнай, металургічнай і іншых вытворчасцях, агляд прывілей (патэнтаў).

Некаторыя з часопісаў, якія друкаваліся ў Вільні, прызначаліся ў першую чаргу для насельніцтва Беларусі. Так, «Вестник Полесских железных дорог» (1912 — 1915) выдаваўся ў Вільні, дзе ў той час знаходзілася Упраўленне Палескай чыгункі, якая праходзіла галоўным чынам па тэрыторыі беларускіх губерань. На старонках часопіса друкавалася нямала артыкулаў, напісаных беларускімі аўтарамі. Такога ж роду выданнямі былі «Записки Виленского отделения Императорского русского технического общества» (1902—1906), «Северо-Западная торгово-промышленная жизнь» (1913—1915), «Записки Северо-Западного отдела Императорского русского географического общества» (1910 — 1913).

Трэба адзначыць, што пераважная большасць сучасных галіновых выданняў з'яўляецца органамі Акадэміі навук БССР і Беларускага дзяржаўнага універсітэта і арыентуецца на спецыялістаў, а навукова-папулярных часопісаў амаль што няма. Дарэвалюцыйныя выданні, наадварот, прызначаліся шырокаму колу чытачоў і выконвалі функцыю прапаганды навуковых ведаў. Можа, было б карысна і цяпер наладзіць выданне навукова-папулярных часопісаў па прыродазнаўстве. Дарэчы, няма ў нас і спецыяльнага гістарычнага часопіса.

Імкненне быць як мага бліжэй да народных мас, навучыць сялян, як выкарыстоўваць навуковыя метады вядзення гаспадаркі, прымусіла рэдакцыю часопіса «Саха» (1912—1914) выдаваць яго на беларускай мове, а сучасны сельскагаспадарчы часопіс «Сельское хозяйство Белоруссии», як вядома, з'яўляецца рускамоўным, хоць і прызначаецца перш за ўсё сельскаму насельніцтву.

І яшчэ адзін цікавы факт. Сучасныя галіновыя выданні па прыродазнаўчых і тэхнічных навуках выходзяць толькі ў Мінску; да рэвалюцыі, апрача Мінска, друкаваліся аналагічныя часопісы ў Віцебску, Гродне, Магілёве, Бабруйску і Лепелі.

Такім чынам, калі разглядаць увесь комплекс галіновых выданняў Беларусі і Вільні, можна сказаць, што інфармацыйныя патрэбы насельніцтва Беларусі ў дарэвалюцыйны перыяд усебакова задавальняліся. Нельга, зразумела, супастаўляць навуковы ўзровень публікацый у сучасных і дарэвалюцыйных часопісах, як нельга параўноўваць і маштабы развіцця навукі і тэхнікі і ступень падрыхтаванасці чытальніцкага кантынгенту. Але, на жаль, змест сучаснага перыядычнага друку абмяжоўваецца толькі матэрыяламі навуковага характару, вельмі мала ўвагі звяртаецца на папулярызацыю навуковых ведаў. На мой погляд, неабавязкова мець у кожным раённым цэнтры сваю газету (асабліва цяпер, калі ў нашай краіне такія вялікія цяжкасці з выданнем перыядычнага друку), а за кошт скарачэння колькасці раённых газет стварыць навукова-папулярныя выданні па розных галінах ведаў.

**Н. БЯРОЗКІНА,**
**загадчыца навукова-метадычнага аддзела Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа АН БССР.**

ПА СЛЯДАХ ВЫСТУПЛЕННЯЎ «ЛіМа»

# «ЯКІ Ж СЭНС?»

У 4 нумары «ЛіМа» за 25 студзеня г. г. пад такой назвай быў змешчаны артыкул, з такімі, у прыватнасці, радкамі: «Закон аб мовах і праграма развіцця беларускай мовы застаюцца толькі папяровымі актамі, яны так і не набылі дзейснай сілы... Абрыдла гаварыць і пісаць, скажам, пра тое, што апошнім часам робіцца на нашых дарогах. Там паўсюдна ставяцца новыя ўказальнікі. Але якія? Назвы населеных пунктаў падаюцца спачатку на рускай мове, а пасля перакладаюцца на беларускую...»

Нечакана на лімаўскую публікацыю адгукнулася Міністэрства будаўніцтва і эксплуатацыі аўтамабільных дарог БССР. Вось што піша нам намеснік міністра С. П. Яцута:

**«Міндарбудам БССР разгледжаны артыкул «Які ж сэнс!» з нагоды надпісаў на дарожных знаках.**

**Адпаведна з рашэннем Камісіі па нацыянальных пытаннях і міжнацыянальных адносінах Вярхоўнага Савета БССР ад 18.05.89 г. дарожныя арганізацыі прыступілі да работы па ўстаноўцы дарожных указальнікаў з надпісамі назваў на беларускай мове.**

**Згодна дзейнаму ДАСТу надпісы на ўказальніках выконваліся на рускай мове і дубліраваліся на беларускай на дарогах агульнадзяржаўнага і рэспубліканскага значэння. На дарогах абласнога і мясцовага значэння па ўзгадненні з Дзяржстандартам СССР надпісы выконваюцца толькі на беларускай мове.**

**Пасля прыняцця Закона Беларускай ССР аб мовах у Беларускай ССР дарожным арганізацыям даручана арганізаваць работу па ўстаноўцы на дарогах агульнадзяржаўнага і рэспубліканскага значэння інфармацыйна-ўказальных знакаў з надпісамі назваў на беларускай мове і дубліраваннем на рускай. Гэта работа будзе праводзіцца аднačасова з заменай устаноўленых указальнікаў, што сталі непрыгоднымі».**

Як бачым, сэнс усё ж ёсць.



Малюнак А. ГУРСКАГА.

# РАДКІ З ПІСЬМАЎ

Хачу падзяліцца сваёй радасцю: пашчасціла паглядзець «Тутэйшых». Для мяне гэты дзень стаў святам, святам душы.

Гэты спектакль павінен паглядзець кожны беларус. Спачатку пасмяяцца над сабой, адчуць боль, а потым горда ўзняць галаву і вітаць сваю маці-Беларусь.

На гэтым спектаклі гледачы пачынаюць «людзьмі звацца» — вось галоўнае, на мой погляд, дзеля чаго і патрэбна пастаноўка.

Дзякуй артыстам тэатра, дзякуй Янку Купалу!

**Алесь ЦЫБІН,**
**урач-педыятр.**

г. Мінск.

●

Дзе мы згубілі тое імя, што дала маці у дзяцінстве, дзе мы згубілі тую мову, што пілі разам з малаком? Калі гайдаліся над намі рудыя вершаліны хвояў, калі з крыніц празрыстых пілі, як мы маглі забыцца тое, што продкі захавалі нам? А тое, што згубіў аднойчы, знайсці, вярнуць назад так цяжка, і, мне здаецца, што ніколі мы ўжо не вернем тых часоў, калі дарыла сонца радасць, і не палохаліся ежы з тых, незабруджаных, палёў, дзе жыта колас налівала і дзе валошкі, быццам неба, раскрылі вочкі ля дарог.

Няўжо ніколі час той дзіўны з блакітам чыстага паветра і песняю на роднай мове ўжо не вернецца? Чаму? А кожны дзень далей нас кліча ад каранёў сваіх і хаты, усё далей, за небасхіл. І ўсё цяжэй успомніць казку, якую маці у дзяцінстве казала нам на добры сон. І хто дапамагчы павінен нам, беларусам, зноў вярнуцца да цяжкай справы аднаўлення таго, што марнавалась тым, каму не лень было глуміцца над беларускаю гаворкай, над беларускай песняй дзіўнай, над беларускаю душой? Я ведаю, ніхто не можа дапамагчы у гэтай справе, калі не возьмемся мы самі — зусім загіне Беларусь.

**Насця ГУЛІС,**
**навучэнка тэхнікума.**

г. Мінск.

●

Хачу прапанаваць нашым пісьменнікам, журналістам стварыць кнігу нарысаў пра ліквідатараў чарнобыльскай катастрофы. Расказаць пра іх лёс, іхнія сённяшнія праблемы і клопаты. Няхай гэта будзе нешта накшталт кніг Адамовіча, Граніна, Алексіевіч. Людзі павінны ведаць пра Чарнобыль усё. Бо большай трагедыі, чым Чарнобыль, няма. Ён яшчэ доўга будзе адзывацца рознымі бедамі ў лёсах многіх пакаленняў.

**В. БАБЕЙ.**

г. Мінск.

●

Два месяцы назад майго брата прызвалі служыць у войска. Воляй лёсу ён апынуўся ў Літве ў шэрагах паветранадэсантных войск.

Наша маці пыталася ў мяне, чаму наш Сяргей служыць у Літве, а не ў Беларусі. Што мне ёй адказаць?

Я б стаў значна больш паважаць наш Вярхоўны Савет, калі б заклікаў беларусаў, якія служаць па-за межамі рэспублікі, не ўдзельнічаць у акцыях «па навядзенні парадку». Бо сёння зрынуць законныя ўлады, напрыклад, у Прыбалтыцы, а заўтра дойдзе чарга і да нас. Так пачынаецца дыктатура.

**У. ЗАВАДСКІ.**

г. Магілёў.

АДДЗЕЛ ПІСЬМАЎ І ГРАМАДСКАЙ ДУМКІ

# «Зямля — гэта частка чалавечай душы...»

## Раман Кузьмы Чорнага «Зямля» ў сучасным успрыманні

Міхась МУШЫНСКІ

### I.

**У БЕЛАРУСКІХ літаратуразнаўцаў сёння, бадай, і няма болей сур'ёзнай задачы, чым напісаць новую «Гісторыю літаратуры», якая б адпавядала сучасным уяўленням аб шляхах, што прайшло нацыянальнае прыгожае пісьменства ад старажытнасці да нашых дзён. Новая «Гісторыя...» заклікана стаць адным з фактараў актывізацыі працэсу адраджэння нацыянальнай культуры, абуджэння нацыянальнай свядомасці народа. Працэс жа гэты разгортваецца марудна, ідзе з цяжкасцямі, на яго шляху ўзнікаюць шматлікія перашкоды.**

**Свае цяжкасці ёсць і ў літаратуразнаўцаў, якія за апошнія гады пераканаліся, што ў сціслыя тэрміны стварыць новую «Гісторыю беларускай літаратуры» не ўдасца**, калі мець на ўвазе сапраўды новую абагульняючую працу, а не злёгку падпраўленае ранейшае яе выданне. Пагроза такой падмены існуе, а вытокі пагрозы трэба шукаць і ў аб'ектыўных умовах, і ў суб'ектыўна-псіхалагічных фактарах, якія з рахунку не скінеш. Каб «Гісторыя...» стала даследаваннем **якасна новага метадалагічнага ўзроўню**, патрэбна папярэдняя, працяглая ў часе падрыхтоўчая праца, патрэбен рашучы перагляд многіх ранейшых метадалагічных падыходаў, застарэлых поглядаў на літаратуру. У першую чаргу павінна быць выпрацавана **новая, цэласная канцэпцыя гісторыі літаратуры**, пазбаўленая ранейшага спрошчанага разумення прыроды мастацтва, вузкай трактоўкі яго сутнасці і прызначэння, ужо не кажучы пра недапушчальнасць тэндэнцыйнага асвятлення пэўных перыядаў гісторыка-літаратурнага працэсу, прадузятай ацэнкі творчасці пісьменнікаў і паасобных твораў. Пры напісанні новай «Гісторыі...» найбольш складаным для яе аўтараў акажацца спасціжэнне ўнутраных заканамернасцей развіцця літаратуры, якія ў ранейшых працах дэкларацыйна абвяшчаліся заканамернасцямі, але імі не былі. Значную цяжкасць уяўляе і новая перыядызацыя літаратурнага працэсу. Мы павінны засвоіць тую ісціну, што да ўстанаўлення сапраўдных заканамернасцей можна прыйсці толькі праз паглыблены аналіз вобразнай сістэмы канкрэтнага твора, узятага, аднак, не ізалявана, а ў адзінстве яго сувязей з грамадскім, культурным, духоўным жыццём народа, праз вывучэнне ідэйна-творчых кірункаў, жанрава-стылёвых плыняў, усяго таго, што і складае паняцце «прыгожае пісьменства». Галоўнае, каб у новай «Гісторыі...» літаратура была разгледжана як мастацтва слова, у сваім непаўторным абліччы, у родавай існасці, а не з'яўлялася, як гэта нярэдка здаралася раней, ілюстрацыяй да гістарычных падзей.

Адной з канкрэтных форм рэалізацыі праграмы па напісанні «Гісторыі...» якраз і з'яўляецца **новае прачытанне твораў і перагляд іх ранейшых ацэнак**. Фактычна гэта адзін з непазбежных этапаў на шляху выпрацоўкі новай гісторыка-літаратурнай канцэпцыі. Не будзе перабольшаннем сказаць, што **новае, прачытанне твораў сёння выліваецца ў самастойны жанр**, які нясе ў сабе адзнакі і **літаратурнай крытыкі і літаратуразнаўства**. Спалучэнне разнародных структурных пачаткаў тут невыпадковае: наяўнасць адзнак літаратурна-крытычнага жанру абумоўлена тым, што артыкул, у якім па-новаму ацэньваецца твор, адрасаваны шырокай чытацкай аўдыторыі, а гэта патрабуе ад даследчыка аператыўнасці. У той жа час даследчык не здолее прыйсці да пераканальных высноў, калі абмяжуецца толькі аператыўнай ацэнкай. Патрэбен яшчэ і змястоўны гісторыка-літаратурны, грамадска-культурны кантэкст. Неабходна ўлічваць усю сукупнасць фактаў, звязаных з напісаннем і функцыяніраваннем таго ці іншага твора. Зразумела, што эстэтычныя крытэрыі, якія складваюцца сёння, нельга механічна пераносіць на літаратуру папярэдніх гадоў і тым самым прад'яўляць пісьменніку неабгрунтаваныя прэтэнзіі. Гэта значыць, у сваіх ацэнках даследчык павінен прытрымлівацца прынцыпаў канкрэтнага гістарызму.

**Прымаючы пад увагу вялікае грамадскае і нацыянальна-культурнае значэнне новай «Гісторыі беларускай літаратуры»**, хацелася б звярнуцца да беларускіх навукоўцаў, увогуле да шматлікіх прыхільнікаў прыгожага пісьменства з заклікам да болей актыўнай дзейнасці. Пры гэтым важна захаваць шырыню погляду на праблему і ў той жа час мець мужнасць публічна адмовіцца ад уласных ранейшых меркаванняў, калі бачна, што яны не вытрымалі праверку часам.

Праблема новага прачытання мае і яшчэ адзін прынцыпова важны аспект. Так, пераглядацца павінны **не толькі творы, ацэнка якіх была беспадстаўна завышана, але і тыя раманы, паэмы, п'есы і апавяданні, якія да сённяшняга дня застаюцца недаацэненымі**. Да ліку такіх твораў адносяцца, напрыклад, раманы Кузьмы Чорнага «Сястра» і «Зямля». Іх значэнне ў тым, што яны накрэслівалі надзвычай перспектыўны кірунак развіцця нацыянальнай літаратуры, замацоўвалі і ўзбагачалі новым зместам найболей жыццядзейныя традыцыі. Гэта кірунак праўдзівага, цвярозага адлюстравання народнага жыцця ва ўсёй паўнаце яго сацыяльна-бытавых праяў. **Гэта шлях тварэння новых жанравых форм, якія не паўтараюць вядомыя ўзоры суседніх літаратур.**

### II.

Раман «Зямля» ўпершыню ўбачыў свет праз асобнае выданне ў 1928 годзе і быў прыхільна сустрэты чытачом. Вельмі высока ацаніла новы твор К. Чорнага ўзвышшаўская крытыка. Адам Бабарэка знайшоў у рамане яскравае ўвасабленне шчырай пісьменніцкай «замілаванасці да жыцця і людзей», «веру ў перамогу новага, што вырасла ў часе рэвалюцыі» («Узвышша», 1929, № 4). Ухваляючы смелае наватарства К. Чорнага, А. Бабарэка назваў «Зямлю» «свайго роду эмацыянальным евангеллем рэвалюцыі» і ўвогуле першым беларускім нацыянальным сацыяльна-псіхалагічным раманам у адрозненне ад біяграфічных, хранікальна-апавядальных, апісальных раманаў Я. Коласа, М. Зарэцкага, Ц. Гартнага. Вядома, крытык быў несправядлівы і да Я.Коласа, і да М.Зарэцкага, раманы якіх якраз не вызначаліся ні апісальнасцю, ні плакатнасцю. Указаныя хібы былі ў пэўнай ступені ўласцівыя «Сокам цаліны», але і гэты раман таксама меў свае бясспрэчныя мастацкія вартасці. І ўсё ж пафас артыкула Бабарэкі зразумелы і прымальны: «Зямля» — сапраўды глыбокі, арыгінальны твор, у якім К.Чорны здолеў раскрыць тэму вёскі так, як не ўдавалася гэта нікому з папярэднікаў у беларускай прозе. Погляд крытыка на раман быў нязвыклы, нетрадыцыйны. Наватарства Чорнага-мастака Бабарэка характарызаваў так: у рамане зямля — «не толькі тое месца, дзе мы жывем у сусеццe і дзе расце хлеб. Гэта схоўня многіх пакаленняў нашых продкаў. Яна родная і дарагая чалавеку таму, што захавала ў сабе яго бацькоў і дзядоў, а то й братоў і сясцёр. Зямля гэта частка чалавечай душы. Зямля гэта чалавечыя думы, жаданні, надзеі».

Што ж датычыць тагачаснай афіцыйнай крытыкі, дык яна раман К.Чорнага цалкам закрэсліла. На гэтых ацэнках варта спыніцца, бо яны даюць нагляднае ўяўленне аб тым **як ішоў працэс няўхільнага разбурэння літаратуры і хто нясе адказнасць за гэта злачынства перад нацыянальнай культурай.**

Паклёпніцкую кампанію супраць К.Чорнага як аўтара «Зямлі» распачала белаппаўская крытыка. «Мяне вельмі здзівіла і дзівуе наступнае,— пісаў Ю.Грышкевіч на старонках «Узвышша».— Адзін з прадстаўнікоў БелАППу так выразіўся на адным сходзе ў Гомелі: «Чорны скочваецца цяпер усё ніжэй і ніжэй».

— Злітуйцеся,— пачуліся галасы,— а раман «Зямля»? Ці ж гэта, па-вашаму, зусім звычайная рэч у беларускай літаратуры?

— Што «Зямля»... гэта нікчэмны раман, бо ў ім дробнабуржуазныя тэндэнцыі, і Чорны стаіць на чале гэтай уласнасці».

Нават праз гэтыя лаканічныя штрыхі бачыцца кірунак разыходжанняў паміж сумленнымі мастакамі і ўладай, пазіцыю якой у дадзеным выпадку абараняла крытыка белаппаўскай арыентацыі. Праўдзівае адлюстраванне жыцця ў літаратуры яна лічыла апалагетыкай дробнабуржуазных памкненняў сялянства.

Што інкрымінавала Кузьму Чорнаму служба ідэалагічнага кантролю? Перш за ўсё тое, што з-пад яго пяра выйшаў нібыта немастацкі, безыдэйны, шкодны твор. Замест таго, каб паказаць перадавыя сілы вёскі, аўтар рамана пачаў са спачуваннем маляваць адсталых, цёмных вяскоўцаў і тым самым праявіў палітычную блізарукасць, ідэйную нясталасць. Героямі свайго твора К.Чорны абраў быццам бы не тых асоб: паказаў «дно» паслякастрычніцкага мястэчка, а не актыўных пераўтваральнікаў жыцця, якія бадзёра сягалі ў светлае заўтра.

Такі беспадстаўны папрок раманісту кінуты быў Р. Мурашкам у артыкуле «Дык дзе ж зямля?» («Маладняк», 1929, № 3). Заўважым: праз некалькі гадоў Р. Мурашка пераканаецца ў несправядлівасці сваіх абвінавачванняў і пацвердзіць гэта ўласнымі творамі. Але змена ягоных поглядаў адбудзецца пазней, а ў 1929 годзе ён напісаў, што ў рамане «Зямля» ідэалізуецца «ціхая мяшчанская прытульнасць», рэальнае жыццё вёскі падменена ідыліяй бесклапотнага мяшчанскага спакою. «А дзе ж уся сетка грамадскіх арганізацый мястэчка, дзе ўся тая маса сялянскага савецкага актыву, вылучаная працэсам класавага змагання і сацыялістычнай перабудовы вёскі, мястэчка,— дзе гэтыя жывыя людзі зямлі па Чорнаму? Няма іх. Няма, як няма, ні ўлады, ні партыйнае, ні камсамольскае ячэйкі, як не відаць ні кааператываў, ні клубу, адным словам, нічога, што паказвала б на савецкае мястэчка».

Як бачна, крытык запатрабаваў ад раманіста ружовых фарбаў, бадзёрых інтанацый, казённага аптымізму — гэта значыць, таго фальшывага антуражу, які пазней стане абавязковай прыналежнасцю твораў, прысвечаных калгаснай вёсцы. Фактычна тут абгрунтоўвалася канцэпцыя ілюстрацыйнай літаратуры, *для якой галоўнае* — не рэальнае жыццё ва ўсёй паўнаце, дыялектычнай зменлівасці, супярэчлівасці, а яго палепшаны, ідэалізаваны варыянт. Пры такім спрошчаным, скажоным разуменні сутнасці літаратуры і яе грамадскага прызначэння пісьменніку адмаўлялася ў праве самастойна выбіраць аб'ект даследавання адпаведна ўласным эстэтычным ідэалам, уласнаму разуменню жыцця. Вось гэта і быў метад сацыялістычнага рэалізму ў яго практычным увасабленні.

Аднак галоўным пунктам публічнага абвінавачвання пісьменніка было тое, *што ім у рамане праводзілася* шкодная **ідэя неабходнасці мірнага вырашэння супярэчнасцей паміж заможнай і бядняцкай часткай вёскі**. Паводле сцвярджэнняў крытыка, сваім раманам К.Чорны **закладваў у беларускай літаратуры аснову небяспечнай для савецкай улады канцэпцыі пацыфізму**. «Ён прапаведуе самае шчыльнае, самае братэрскае сяброўства... бедняка з кулаком, кулака з сакратаром ячэйкі Алесем. Адным словам, зразумелая тэндэнцыя. Мы не памылімся, калі назавём яе тэорыяй пацыфікацыі ў сваім зараджэнні, тэорыяй класавага замірэння і бяскласавасці (у мастацтве)».

Што ж датычыць класавай барацьбы, дык яе, сцвярджае крытык, у беларускую вёску, паводле Чорнага, прынеслі палітыканы. «Гэта ёсць спробаю ў мастацкай форме давесці, што класавае змаганне не госць у сялянстве»,— сцвярджаў крытык.

Трэба прызнаць, што насуперак уласнаму жаданню аўтар водгуку вельмі дакладна вызначыў тыя сапраўдныя вартасці рамана «Зямля», якія робяць гонар К. Чорнаму і якія ў далейшым павінны былі дабратворна паўплываць на беларускую вясковую прозу, а іменна, паглыбіць і замацаваць у ёй прынцыпы цвярозага рэалізму, ідэі народнасці і гуманістычнага стаўлення да чалавека. К.Чорны, як мы далей убачым, пераканальна паказаў, што ў беларускай вёсцы канца 20-х гадоў непрымірымых, антаганістычных канфліктаў не існавала, а таму не было падстаў для класавага сутыкнення. І тое, што крытык называе пацыфізмам і лічыць ідэалагічнай дыверсіяй, на самай справе было праяўленнем непадробнага гуманізму мастака-грамадзяніна, разумным жаданнем захаваць здаровыя сілы сялянства.

**Класавую барацьбу ў працоўную вёску і сапраўды прынеслі палітычныя авантурысты, а вынікі гэтай гвалтоўнай акцыі сёння агульнавядомыя: вёска, яе традыцыйны ўклад былі разбураны, знішчаны. Што ж датычыць літаратуры, увогуле мастацтва, дык яны ў 30-я гады і ў пазнейшыя дзесяцігоддзі вымушаны былі прапагандаваць ілжывую, антыгуманную і антынародную ідэю класавай канфрантацыі ў вёсцы, бясконца выкрываць дробнабуржуазную псіхалогію сялянства, яго неадольную прагу быць гаспадаром на сваёй зямлі.**

У рамане К.Чорнага «Зямля» права выказаць сваю крыўду ёсць і ў Юліка Барановіча, працавітага, дбайнага гаспадара, якога мясцовае начальства несправядліва залічыла да кулакоў.

«— Я гляджу гаспадаркі, бо хачу жыць на свеце, а не прападаць. Унь я і дзяўчыну сыскаў з навукі дзеля гэтага. Мне і шкода яе было, от што, але я не глядзеў на гэта. У мяне сэрца таксама ж не каменнае і мне таксама хацелася, каб мая дачка выўчылася і была паняю, але што ж ты зробіш. Не даўчылася. А тут, калі што якое, дык адразу: кулак, кулак. Як бы гэта ганьба, што чалавек мае. Няўжо ж, каб усе нічога не мелі. А калі і кулак, н то што!.. Трасца матары іх!.. Які я кулак!.. *Я* — трудзяшчы пралентарыят. І больш нічога, калі яны хочуць ведаць!»

І гэтыя словы селяніна не ўспрымаюцца як гучная аўтарская дэкларацыя. Наадварот, яны дакладна перадаюць глыбокі драматызм працоўнага чалавека, які воляй абставін быў залічаны да варожых сіл грамадства.

Нават з прыведзеных тут ацэнак рамана ў крытыцы канца 20-х гадоў бачна, што **твор К.Чорнага — этапная з'ява ў гісторыі беларускай літаратуры**, і таму ён заслугоўвае грунтоўнага вывучэння. Тым не меней даследчыкі пазнейшых дзесяцігоддзяў не здолелі раскрыць мастацкі сэнс рамана, яго патэнцыяльную ролю ў развіцці беларускага вялікага эпасу. Яны не выкарысталі і тое каштоўнае, што было ў артыкуле Бабарэкі. Калі чытаеш прысвечаныя раману старонкі даследчых прац, дык бачыш, што аўтары, як правіла, абмяжоўваюцца агульнымі ацэнкамі і спяшаюцца хутчэй перайсці да разгляду «асноўных» твораў К.Чорнага, яго раманаў і аповесцей 30-х гадоў — «Бацькаўшчына», «Трэцяе пакаленне», «Люба Лук'янская» і інш. Складваецца ўражанне, што ва ўяўленні многіх літаратуразнаўцаў «Зямля», а тым болей «Сястра» — творы падрыхтоўчага перыяду, калі Чорны рабіў першыя крокі па шляху авалодвання складанай раманнай формай.

Вядома, мы павінны ўлічваць і тое, што да апошняга часу ніхто з даследчыкаў аб'ектыўна не меў магчымасці публічна выказаць сваю падтрымку ідэі пацыфізму, якой прасякнуты раман К.Чорнага, яго поглядам на класавую барацьбу ў вёсцы як на з'яву,

Іван ЧЫГРЫНАЎ

# ХТО ВІНАВАТЫ

**Драматычная фантазія на чарнобыльскую тэму ў дзвюх дзеях**

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

**Зноў кватэра Левановічаў. Ціха працуе тэлевізар. У кватэры — тыя ж госці, што і налісьці, у 1986 годзе: ВАЛЬДЭМАР, АНТАНІНА, ДАЎГУЧЫЦ, АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ, АНДРЭЙ ЛЕВАНОВІЧ; гэты раз дома гаспадар, ЭДУАРД ЛЕВАНОВІЧ; ГАСПАДЫНЯ Людміла Міхайлаўна завіхаецца каля стала. Вечар таксама ў гонар гаспадара, які пастарэў на некалькі гадоў. Але стол гэты раз накрыты меншы.**

ДАЎГУЧЫЦ (паціраючы рукі). Даўно мы не збіраліся ў вас, Людміла Міхайлаўна, даўненька.

ГАСПАДЫНЯ. І то праўда, даўно. Можа, таму, што апошні раз сустракаліся ў нядобры час.

ДАЎГУЧЫЦ. Так, то быў, здаецца, яшчэ застойны час, але застольны.

ГАСПАДЫНЯ. Што застольны, то застольны. Гэта праўда. Але я не пра тое.

ДАЎГУЧЫЦ (да Андрэя). Скажыце, Андрэй, у вас гарэлка таксама па талонах?

АНДРЭЙ ЛЕВАНОВІЧ. У нас не гарэлка, у нас — горілка. Але пакуль без горілачных талонаў.

АНТАНІНА. Хто гэта ў нас талоны прыдумаў?

ВАЛЬДЭМАР. Хто прыдумаў, невядома, а ўвёў гарсавет.

ДАЎГУЧЫЦ. Справа няхітрая — прыдумаць. Але што гэта пісьменнік наш позніцца? Я так разумею, што мы яго чакаем? Першага тоста няма каму гаварыць, га, Людміла Міхайлаўна? Позніцца ваш кумір.

ЭДУАРД ЛЕВАНОВІЧ. Яго не будзе. Паехаў.

ДАЎГУЧЫЦ. Куды?

ЭДУАРД ЛЕВАНОВІЧ. На Смаленшчыну. Адтуль цякуць многія нашы рэкі. А Павел Дзямідавіч па вытоках рэк цяпер шастае.

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ. Чарговы пісьменніцкі заскок.

ЭДУАРД ЛЕВАНОВІЧ. Я не стаў бы гаварыць так. Вось скажы, дзе выток Нёмана?

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ. Недзе на Уздзеншчыне.

ЭДУАРД ЛЕВАНОВІЧ. Гэта так, але канкрэтна?

АНТАНІНА. Што гэта вы, таварышы мужчыны, раптам пра рэкі? Быццам сярод вас няма жанчын?

ДАЎГУЧЫЦ. Жанчыны - то ёсць, але ж яны пры ўласных мужчынах.

АНТАНІНА. Ну, калі падобная акалічнасць вам перашкаджае, то якія ж вы мужчыны?

**Даўгучыц робіць штучны твар, разводзіць рукамі.**

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ (дастае з кішэні часопіс). Антаніна правільна кажа. Лепей паслухайце. Гэта пра Матроскіна і кампанію. Памятаеце? «Аднойчы кот Матроскін спытаў Шарыка: «Калі б цябе ва ўрад увялі, якім бы ты міністрам захацеў стаць?» — «Я б двума міністрамі адразу стаў, — сказаў Шарык. — Паўдня міністрам рыбнай гаспадаркі, паўдня міністрам палявання». — «А я б,—сказаў кот Матроскін, — я б прэзідэнтам стаў».— «Ты што, здурнеў? Глядзі, да чаго ён краіну давёў? Мяса няма, малака няма, яйка на рынку рубель каштуе». — «Эх, Шарык, цямнота ты вясковая. Ды ён усё робіць, каб я разбагацеў. Раней малако было дзешавей за бензін. А зараз я за адзін кілаграм смятаны магу два кілаграмы грошай узяць. Так што, дзякуй яму».— «Ну і што? Што ты са сваімі грашамі рабіць будзеш? У магазінах жа пуста».— «А я, можа, імі сваю печку абклею. Шпалераў жа не прадаюць».— «А я б міністрам КэГэБэ стаў»,— сказаў паштальён Печкін. «Кім, кім?» — «Міністрам КэГэБэ. Я б усю краіну заваліў шпіёнамі. Хто ідзе з фотаапаратам, той і шпіён».

ДАЎГУЧЫЦ. Ці доўга яшчэ ў цябе там?

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ. Не падабаецца?

ДАЎГУЧЫЦ. Ну і часы насталі!.. Яшчэ некалькі гадоў таму мы нясмела, азіраючыся адзін на аднаго, чыталі тут вершыкі пра галоснасць і КэГэБэ, а цяпер...

ЭДУАРД ЛЕВАНОВІЧ. Ну, хопіць, сябры!

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ. Зноў рот заціскаюць. А ўсё-ткі хацелася б сёння пачуць, што з нашым імяніннікам адбылося за гэтыя некалькі гадоў.

ЭДУАРД ЛЕВАНОВІЧ. Справаздачы не будзе. **(Бярэ чарку са стала. Падыходзяць іншыя, разбіраюць астатнія чаркі.)** Паколькі нашага выпрабаванага тамады няма, скажу я.

**У гэты момант і на экране тэлевізара ўзнікае постаць вучонага. У кватэры з гэтай нечаканасці ўсе смяюцца.**

КАРЭСПАНДЭНТ (з экрана). У сувязі з абмеркаваннем на сесіі Вярхоўнага Савета Дзяржаўнай праграмы па ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС мы звярнуліся да вядомага вучонага Эдуарда Сямёнавіча Левановіча. Эдуард Сямёнавіч, вы прысутнічалі на першым пасяджэнні. Скажыце...

ЭДУАРД ЛЕВАНОВІЧ (з экрана). Важнейшай мэтай праграмы з'яўляецца стварэнне бяспечных для здароўя чалавека ўмоў жыццядзейнасці ў раёнах, якія падпалі пад радыеактыўнае забруджанне.

КАРЭСПАНДЭНТ (з экрана). Многія схільны думаць, што з праграмай урад крыху спазніўся?

ЭДУАРД ЛЕВАНОВІЧ (з экрана). Не крыху, а моцна. Больш таго, можа, спазніўся ўжо незваротна. Я зыходжу з дадзеных нашай навуковай лабараторыі. Радыеактыўныя рэчывы дасюль распаўсюджваліся ва ўсіх напрамках ад станцыі на значных адлегласцях. Мы адкрылі, што істотнае значэнне, акрамя ёду, цэзію, стронцыю, у забруджванні мелі таксама радыеізатопы церыю, ніёбію, цырконію, тэлуру, неёдзію, нептунію, рутэнію, лантану...

КАРЭСПАНДЭНТ (з экрана). Поўны набор. Пра некаторыя нават чуць не даводзілася.

ЭДУАРД ЛЕВАНОВІЧ (з экрана). З ежай, вадой, інгаляторна, праз скуру яны пастаянна паступалі ў гэтыя гады ў арганізм людзей.

КАРЭСПАНДЭНТ (з экрана). Вы, Эдуард Сямёнавіч, гаворыце так, быццам ужо ўсё ў мінулым — паступалі і гэтак далей.

ЭДУАРД ЛЕВАНОВІЧ (з экрана). Апошнія даследаванні ў нас за ўчарашні дзень. Таму я так і гавару — нібыта пра мінулае. Але гэта ўсё самае жахлівае сённяшняе. Паводле нашых дадзеных можна заключыць, што не ёд і цэзій былі асноўнымі дозаўтвараючымі фактарамі для чалавека (акрамя шчытавіднай залозы), а цэлы комплекс радыенуклідаў. Такім чынам, трыццаціпяцібэрная канцэпцыя, якую спрабуюць навязаць, не толькі навукова беспадстаўная і патэнцыяльна небяспечная, але і дэзінфармуе насельніцтва, навуковыя колы, нарэшце, урад.

КАРЭСПАНДЭНТ (з экрана). Чаму вашы даследаванні...

ЭДУАРД ЛЕВАНОВІЧ (з экрана). Вы хочаце спытаць — чаму новая методыка, якая магла даўно ўжо ратаваць людзей у так званай чарнобыльскай зоне, адмаўляецца тымі, хто павінен быў распрацоўваць праграму выратавання людзей?

КАРЭСПАНДЭНТ (з экрана). Так.

ЭДУАРД ЛЕВАНОВІЧ (з экрана). Думаецца, што зноў у нас навука блытаецца з палітыкай. І гэта нягледзячы на галоснасць, на перабудову. Шматгадовы манапалізм урадавых органаў і імкненне самавольна распараджацца засакрэчанай ісцінай і тут адыгралі і адыгрываюць злавесную ролю. Знаходзячыся на вяршыні сацыяльнай піраміды, кіраўніцтва ў эйфарыі поўнай беспакаранасці ігнаруе і на гэты раз законы прыроды, навязвае дырэктыўныя ўказанні.

КАРЭСПАНДЭНТ (з экрана). Выходзіць, што ўсе гады пасля выбуху ў Чарнобылі народ знаходзіўся ў падмане, дакладней, яму хлусілі?

ЭДУАРД СЯМЁНАВІЧ (з экрана). Можна лічыць, што так.

**Постаць старэйшага Левановіча знікае з экрана, пачынаюцца новыя кадры ў інфармацыйнай праграме. Анатоль Іванавіч падыходзіць, выключае тэлевізар. Ніхто не пярэчыць.**

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ. Прабач, Эдуард Сямёнавіч, але я ўжо... Ну проста не магу ад вашай радыяцыі.

ВАЛЬДЭМАР. Ад радыяцыі ці з радыяцыяй?

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ. Табе відней. Але ўсё роўна як каростай пакрыўся знутры і звонку. Спадзяёмся, Эдуард Сямёнавіч, ты ў сваёй застольнай прамове не будзеш пра радыяцыю?

ЭДУАРД СЯМЁНАВІЧ. Не, Анатоль Іванавіч, не палохайся. Я там ужо (паказвае на тэлевізар) усё сказаў. Я пра час. Пра тое, аб чым тут ужо гаварылі. Сапраўды, час надзвычай памяняўся. Ты, Анатоль Іванавіч, пародыі чытаў — пра Матроскіна, Шарыка і Гарбачова.

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ. Дарэмна вы не захацелі даслухаць. Там яшчэ было і пра Раісу Максімаўну.

ЭДУАРД СЯМЁНАВІЧ. Цяпер гэта ўжо нецікава. Прайшоў яе час на анекдоты. Мне ўчора расказвалі палітычны анекдот. «Які самы адметны крэйсер у нас?» — пытае нехта ў кагосьці. «Аўрора».— «Чаму?» — «Адзін раз стрэліла, а многа гадоў развальваецца». Як бачыш, сапраўды час памяняўся. К добраму ці благому? Дзіўна, але на такое, здавалася б, простае пытанне не кожны бярэцца адказаць. Карэспандэнт у мяне пытаў, вы чулі: няўжо ўсе гэтыя гады пасля Чарнобыля народу хлусілі? Пры самай вялікай галоснасці мы, аказваецца, сапраўды жывём і ў самай вялікай хлусні. Анатоль Іванавіч кажа, што абрыдла слухаць пра радыяцыю. Але што нам з Андрэем, братам маім, рабіць,— ад радыяцыі мы ўжо страцілі сваю радзіму. А страціць малую радзіму — усё роўна, што застацца без вялікай... Я за наша сяброўства, якое...

**Госці цягнуцца да гаспадара з чаркамі: «За сяброўства, сяброўства!..» Весела выпіваюць, стоячы вакол стала.**

ВАЛЬДЭМАР. Я ўсё хацеў спытаць вас, Эдуард Сямёнавіч...

ЭДУАРД СЯМЁНАВІЧ. Слухаю.

АНТАНІНА. Не лезь ты да яго. Няхай паесць.

ВАЛЬДЭМАР (усё роўна як не чуе). Публіцысты, напрыклад, сцвярджаюць, што некаторыя раёны былі заражаны з самалётаў. І намнога пазней, чым узарваўся рэактар на станцыі.

ЭДУАРД СЯМЁНАВІЧ. Ва ўсякім выпадку, ніхто з урадавых колаў публіцыстам водпаведзі не даў. Справа ў тым, што даследаваць тую частку тэрыторыі пачалі з вялікім спазненнем. Яшчэ пад самую восень восемдзесят шостага года ўсё, ці амаль усё канцэнтравалася вакол трыццацікіламетровай зоны.

ВАЛЬДЭМАР. Дык ці праўда, што цяжкім алюмініем пасадзілі аблокі на сялянскія гароды?

АНТАНІНА (спыняецца паміж Эдуардам Левановічам і Вальдэмарам). Адстань!..

ЭДУАРД ЛЕВАНОВІЧ. Тэхнічна гэта магчыма...

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ. Таямніцы, таямніцы... Але ж сам толькі што выступаў супраць іх. Жыццё, як у пякельнай цемрадзі. Я недзе чытаў, што адзін з лётчыкаў, які скінуў атамную бомбу ці то на Хірасіму, ці то на Нагасакі ў сорак пятым годзе, з'ехаў потым з глузду і трапіў у псіхлячэбніцу.

ДАЎГУЧЫЦ. Гэта праўда. Але нашы... Не думаю, што хтонебудзь з нашых распыліцеляў нават прызнаецца калі-небудзь, не тое што галавой памуціцца.

АНДРЭЙ ЛЕВАНОВІЧ. Ну а што з таго, што прызнаецца? Ну я, напрыклад.

**Але на яго ніхто не звярнуў увагі. Толькі Антаніна стала прабірацца да лётчыка.**

АНТАНІНА. У герої, Андрэй Сямёнавіч, захацелі ці ў дурдом?

АНДРЭЙ ЛЕВАНОВІЧ. Не верыце?

АНТАНІНА. Вы слаўны хлопчык, Андрэйка. Вам бы ў тэатры першых любоўнікаў іграць, а вы ў герастраты. Не выйдзе. (Звяртаецца да ўсіх.) Па ўсім відаць, што старэйшы Левановіч не дазволіць і сёння гаварыць нам тосты за яго, то я прапаную — за брата, Андрэя Сямёнавіча! (Лашчыцца да яго.)

ВАЛЬДЭМАР. Які чамусьці прагне ў сучасныя гераcтраты. У атамныя.

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ. Ну, гэта ты... Ты на яго так, бо... Словам, бэсціць — няхітрая справа. А вось за жонкай даглядзець...

**Усе смяюцца. Як у адным парыве падымаюць чаркі.**

ЭДУАРД ЛЕВАНОВІЧ. Андрэй заўтра едзе ў нашу радыяцыйную вобласць. Так што...

ДАЎГУЧЫЦ. Колькі ў вас?

ЭДУАРД ЛЕВАНОВІЧ. Трыццаць два і пяць дзесятых кюры на кіламетр.

ДАЎГУЧЫЦ. Гэта — па цэзію.

ЭДУАРД ЛЕВАНОВІЧ. Так што яшчэ не вядома, куды лепей трапіць — у псіхлячэбніцу ці ў радыяцыйную вёску. Шчаслівай дарогі табе, брат.

ДАЎГУЧЫЦ. Вось так і робяцца ў нашай Айчыне героі. Кагосьці высылаюць з Масквы ў Калугу...

ВАЛЬДЭМАР. Альбо ў Ніжні Ноўгарад.

ДАЎГУЧЫЦ. Так, альбо ў Ніжні Ноўгарад. Аказваецца, вялікае няшчасце. Увесь свет крычыць і непакоіцца. А што ж нам? Як нам быць, якія жывуць увесь час яшчэ далей ад Масквы, чым Калуга ці Ніжні Ноўгарад? Значыць, мы ўсё жыццё ў ссылцы знаходзімся?

ЭДУАРД СЯМЁНАВІЧ. Калі ты маеш на ўвазе канкрэтную асобу, то дарэмна — усё-ткі матэрыяльная база навуковая сёння не ў Ніжнім Ноўгарадзе ці ў Калузе, а ў Маскве.

ДАЎГУЧЫЦ. Дык так няхай і гавораць.

ЭДУАРД ЛЕВАНОВІЧ. Урэшце-то справа ў мінулым. Хоць... што значыць — у мінулым?

ДАЎГУЧЫЦ. Вось-вось. Гарачае мінулае можа апякаць і сёння. Ды й моцна!

**Гаспадыня непрыкметна кліча рукой дзевера. Той выходзіць на кухню.**

ГАСПАДЫНЯ. Ты заўважыў — святы ўжо не атрымліваюцца? Прынамсі, так, як раней. Бывала ж, пачынаюць госці размову за сталом, дык заслухаешся.

АНДРЭЙ (уздыхае). Твая праўда, нявестка.

ГАСПАДЫНЯ. А цяпер ад размоў вушы вянуць: усе ўсё ведаюць, на ўсё ва ўсіх думка ёсць.

АНДРЭЙ. Нічога не зробіш, Люся. Відаць, да перабудовы ў нашых галовах шмат пустога месца было. Вось цяпер і запаўняем яго смеццем.

ГАСПАДЫНЯ. Не, усё-ткі, бадай, трэба мяняць гасцей. Трэба заводзіць новых. Вунь колькі ў Эдуарда ў інстытуце цікавых вучоных. А ён усё трымаецца за гэтых абывацеляў. Мне ўжо цяпер цяжка нават успомніць, як яны ў нас з'явіліся некалі.

АНДРЭЙ (усміхаецца). Стары друг лепей новых двух. Чула такую памоўку?

ГАСПАДЫНЯ. Чула, чула, але...

АНДРЭЙ. Думаеш, сярод Эдуардавых вучоных няма мяшчан, абывацеляў? Цяпер гэта скрозь — мяшчанства. Дарэчы, ведаеш, як па-польску грамадзянін? Абывацель!

ГАСПАДЫНЯ. Знайшоў на каго спаслацца! Ладна, Андрэй, выпіць хочаш?

АНДРЭЙ. Ты што, дзеля гэтага мяне паклікала сюды? Выпіць можна было і там, разам з усімі.

**Людміла Міхайлаўна, здаецца, не слухае дзевера. Налівае з бутэлькі ў чаркі.**

ГАСПАДЫНЯ. Я хацела спытаць у цябе.

АНДРЭЙ. Пра што? Ці збіраюся нарэшце жаніцца?

ГАСПАДЫНЯ. Ды не. Я пра тое... Ну, словам, што гэта ты ляпнуў там за сталом, моў, я вінаваты.

АНДРЭЙ. У чым?

ГАСПАДЫНЯ. Ну, у тым, што...

АНДРЭЙ. А-а, чаму б і не? Сама ж ведаеш, дзе я служу. Загадалі, паляцеў і рассыпаў той алюміній у аблоках, не ведаючы дакладна, што яны радыяцыйныя.

ГАСПАДЫНЯ. Пабойся Бога, Андрэй!.. Што ты гаворыш?

АНДРЭЙ. Праўду, Люся. Гэта цяпер, у нашы дні, можна загад не выканаць, да чалавецтва апеляваць. А тады — загад і ўсё тут!

ГАСПАДЫНЯ (паверыла). Бедны брат мой!.. Такую жахлівую тайну на душы носіць! Шкада мне цябе!.. І сябе таксама!.. І ўсіх нас!..

АНДРЭЙ. А ты кажаш — жаніся. Тут, можна сказаць, ужо да вісельні недалёка. Дарэчы, я не адзін тады вылятаў на заданне. Лёталі і другія.

ГАСПАДЫНЯ. Ну а дзе ж тыя, што загад аддавалі?

АНДРЭЙ. Яны ніколі вінаватыя не бываюць, бо ніхто не ведае, адкуль загад выходзіў.

ГАСПАДЫНЯ. Эдуард ведае пра гэта?

АНДРЭЙ. Наўрад ці.

**Колькі часу сядзяць моўчкі. Людміла Міхайлаўна пачынае ціха плакаць.**

АНДРЭЙ. Перастань, Люся.

ГАСПАДЫНЯ. Бедны мой дзевярок!.. Ты хоць разумееш?..

АНДРЭЙ. Я ўсё, сястра, разумею. Даўно разумею. І гатовы хоць зараз выскачыць у акно.

ГАСПАДЫНЯ (спахопліваецца). Не гавары глупства, Андрэй. Калі ты збіраешся ехаць?

(Працяг на стар. 14—15).

(Заканчэнне. Пачатак у мінулым нумары).

# ХТО ВІНАВАТЫ

(Пачатак на стар. 13).

АНДРЭЙ. Заўтра. Эдзік, нябось, даўно не ездзіў?

ГАСПАДЫНЯ (з адчаем). Калі яму ездзіць? Сам бачыш. А цяпер яшчэ ў народныя дэпутаты збіраецца выбірацца. Пустых акруг многа. Дык... Але ты, Андрэйка, не гавары яму, калі нават пачне дапытвацца. Ці мала пра што можна жартаваць.

АНДРЭЙ. Гэта не жарты, сястра.

ГАСПАДЫНЯ. Хадзем да гасцей. А то мы праз гэту віну тваю...

АНДРЭЙ. Каб па-сапраўднаму адчуць віну, трэба вачамі пабачыць свой грэх.

ГАСПАДЫНЯ. Дзеля гэтага і едзеш? Бедны мой брацік!..

АНДРЭЙ. Ведаеш, мне вось так гаварыла маці: «Бедны Андрэйка, бедны Андрэйка...» Але ўжо калі памерла. У сне. Але не помню — чаму? Толькі ківала галавой і ў вялікай скрусе ўсё роўна як аб нечым папярэджвала: «Бедны Андрэйка, бедны Андрэйка!..»

**Людміла Міхайлаўна фарбуецца. Пасля і яна, і Андрэй ідуць да гасцей.**

## *Карціна VII*

**Вакзал на чыгуначнай станцыі. Паміж людзей — знаёмы ПІСЬМЕННІК Павел Дзямідавіч і АНДРЭЙ ЛЕВАНОВІЧ.**

ПІСЬМЕННІК. Як вы трапілі сюды, на край захварэўшай зямлі, Андрэй Сямёнавіч?

АНДРЭЙ. Гэта ж радзіма мая.

ПІСЬМЕННІК. Ах, так!.. Я ўсё забываюся, што вы, Левановічы, адсюль родам. У якім раёне ваша вёска?

АНДРЭЙ. У суседнім.

ПІСЬМЕННІК. Ах, так!.. Вельмі не пашанцавала вам. І вашым землякам, і вам асабіста. Страціць малую радзіму!.. Але што мы стаім? Хадземце... ну, хоць бы да мяне ў гасцініцу. Я там займаю люксавы нумар. Праўда, без туалета і ўсялякіх іншых выгод. Але сапраўды зайдземце, як маеце час. Цягнік будзе пазней, пад самы вечар, а я вельмі рады вам.

АНДРЭЙ. Часу ў мяне да цягніка яшчэ і праўда багата. Толькі навошта па гасцініцах шастаць?

ПІСЬМЕННІК. Як хочаце. Можна і тут. Хоць бы ў рэстаране. Праўда, цяпер не тое, што раней. Але, можа, пашанцуе.

АНДРЭЙ. Не, і ў рэстаран не трэба. Тым больш, што нявестка забяспечыла чыстым харчам.

ПІСЬМЕННІК. Ну, як капітан хоча. Але я асабіста люблю, калі ўсё грунтоўна. Значыць, вы са сталіцы зараз?

АНДРЭЙ. Так.

ПІСЬМЕННІК. Канешне ж, я і забыў — як заўсёды, у брата вашага чарговы дзень нараджэння. Я свае дні нараджэння не толькі не адзначаю, але і не помню. Ну і што?

АНДРЭЙ. Успаміналі вас. Хтосьці казаў, што вы цяпер даследуеце вытокі рэк.

ПІСЬМЕННІК (смяецца). Гм, даследую... Проста... Адным словам, цягне да чыстых крыніц. Але дзе цяпер чыстая вада? Ды і самі крыніцы — дзе? Адных ужо няма, а другія прагорклі. Думаў, хоць Бесядзь цячэ сваёй вадой. Дык не. А да таго ездзіў на выток Нёмана. Ніхто не ведае, дзе ён. Меліяратары здраталі ўсё вакол. Так што Нёман таксама не сваёй вадой цячэ.

**Падыходзяць да лаўкі, сядаюць.**

ПІСЬМЕННІК. Вас, Андрэй Сямёнавіч, таксама шматлікія страты чакаюць на радзіме.

АНДРЭЙ. Я на магілу матчыну еду.

ПІСЬМЕННІК. Я вашу маму помню. Прыязджала часта да Эдуарда Сямёнавіча, як была жывая. А ў мяне ўжо таксама нікога. Дык я і кажу — не пазайздросціш тутэйшым людзям. Ды, няйначай, ужо, лічы, і ўсяму народу. Вось тут, бадай, край так званай чарнобыльскай зямлі. Але ж і тут сёлета трусы паздыхалі, ну, кролікі... Людзі адсюль раз'язджаюцца. Застаюцца адны старыя.

АНДРЭЙ. Хіба ж ім небяспека не пагражае?

ПІСЬМЕННІК. Я ў адной такой сям'і пабыў — дзед і баба. Кажуць, от, нам ужо адзін канец, хоць там, хоць тут; што нам дасць лішні год, а тут свая хата і свой від з парогу. Матчына ж хата цэлая?

АНДРЭЙ. Стаіць.

ПІСЬМЕННІК. Ну і час настаў — стаяць будзе хата, а нікому непатрэбная, заразная!.. Я тут зайшоў у адну бібліятэку, у Чудзянах. Кнігі таксама не вывезеш. Дык і ляжаць, кінутыя на падлозе. І мой трохтомнік на пярэднім плане. Я сфатаграфаваў. Жахліва!..

АНДРЭЙ. Сапраўды, жахліва.

ПІСЬМЕННІК. Асабліва ў нашу разруху, якая завецца перабудовай. Дарэчы, як вы ставіцеся да таго, што робіцца ў краіне? Вы ж вайсковы чалавек? Цярплівасці ў арміі надоўга хопіць?

АНДРЭЙ. Армію таксама моцна закранула перабудова. І разбэсціла. Але, тым не менш, салдаты яшчэ па камандзе паварочваюцца — налева, направа. Прызнацца, шмат пытанняў і ў арміі да ўрада, да парламента. Асабліва шмат іх узнікла, калі пачалі працаваць рэспубліканскія Вярхоўныя Саветы. Лічы, у кожнай рэспубліцы свая дэкларацыя аб незалежнасці. А згодна з ёй — падавай нацыянальную армію і гэтак далей.

ПІСЬМЕННІК. Мінулы год яшчэ я, здаецца, усё здольны быў патлумачыць. Сёлета — не. Можа, таму вось і вандрую па вытоках — ад адной ракі да другой. Дзіўна, га?

АНДРЭЙ. Цяпер усе кудысьці прагнуць. Адны — у храм, другія...

ПІСЬМЕННІК. У спекуляцыю. Палітычную, калі можна сказаць так, і эканамічную. Я тут, седзячы ў раённай гасцініцы, працаваў паміж паездкамі над артыкулам па заказу адной рэдакцыі. Жыццё, дарагі Андрэй, поўніцца ўсё новымі і новымі парадоксамі і недарэчнасцямі. Хутка мы ўжо няздольныя будзем вызначаць, хто ў чым вінаваты.

АНДРЭЙ. А вінаватыя ёсць? Я хацеў сказаць — усё-ткі вінаватых будуць шукаць бліжэй, чым Сталін ды Троцкі з Бухарыным?

ПІСЬМЕННІК (усміхаецца). Гм... Раз ёсць віна, значыць, павінны быць і вінаватыя. Праўда, не кожны адважыцца на прызнанне віны. Я тут чытаў артыкул, дакладней, інтэрв'ю аднаго карэспандэнта з акадэмікам Аляксандравым. Гаворка ішла пра эксперымент, які прывёў да катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Прэзідэнт акадэміі, атамшчык, клянецца, што нічога не ведаў пра той эксперымент.

АНДРЭЙ. Прэзідэнт акадэміі не ведаў? Хлусіць ён!

ПІСЬМЕННІК. Клянецца, што не ведаў. І канструктар чарнобыльскага рэактара, таксама акадэмік, нічога не ведаў.

АНДРЭЙ. Дзіўна. Але хто ж тады распрацоўваў эксперымент?

ПІСЬМЕННІК. Аказваецца, даручана было падрыхтаваць праект арганізацыі, якая ніколі не мела справы з атамнымі электрастанцыямі.

АНДРЭЙ. Нават так?

ПІСЬМЕННІК. А я думаю — не тая ў нас дзяржаўная сістэма, каб вось так. Нехта даваў каманду на эксперымент з самага верху. І цяпер хаваецца, калі, вядома, жывы, не ў Крамлёўскай сцяне ўжо. Таксама ж хтосьці камандаваў, калі распылялі ў небе над гэтым краем цяжкі алюміній.

АНДРЭЙ (ускідвае галаву). Думаеце, радыенукліды не маглі заляцець сюды непасрэдна з АЭС?

ПІСЬМЕННІК. Цяжка сказаць, шляхі радыяцыі, як і шляхі боскія, невядомыя, але я таксама схільны думаць, што тутэйшыя раёны заражаны пры дапамозе тэхнікі. Ці то градабойнымі снарадамі, ці то яшчэ нейкім чынам. Таксама загадка.

АНДРЭЙ. Вы лічыце, што галоўнае — знайсці вінаватых?

ПІСЬМЕННІК. Галоўнае — ратаваць народ ад вымірання. Але без пошуку вінаватых ратаванне таксама не адбудзецца. Людзі павінны ведаць пра ўсё, у тым ліку асабіста і пра тое, хто ў першыя дні ўтойваў сапраўдныя маштабы катастрофы і выдаваў фальшывыя дадзеныя аб радыяцыйнай абстаноўцы. (Доўга маўчыць.) Мне цяпер нічога не застаецца, як прамаўляць маналогі. Раней я патрабаваў надрукаваць карты забруджаных раёнаў. Смяяліся — моў, такая дзяржаўная вайна, а ён лезе. Нарэшце, карты надрукавалі. Цяпер трэба дамагацца, каб перад народам да ганебнага слупа былі пастаўлены вінаватыя за Чарнобыль. Дарэчы, як і за гэту вось разруху. Вы, Андрэй, паездзіце, паходзіце, пабачыце, як тут жывуць цяпер і чым жывуць, і закрычыце немым голасам. Загляніце з дарогі да мяне ў гасцініцу.

АНДРЭЙ. Добра, Павел Дзямідавіч. Хоць мне, бадай, нялёгка будзе зрабіць гэта...

ПІСЬМЕННІК. Чаму?

АНДРЭЙ. Не хацелася б называць прычыну. Вось вы казалі пра маналогі, якія даводзіцца часам прамаўляць. Напэўна, цяжка. Але, паверце, яшчэ цяжэй чалавеку прамаўляць унутраныя маналогі.

ПІСЬМЕННІК. Унутраныя маналогі... Цяпер наўрад ці хто прамаўляе іх, бо дэфіцыт сумлення. Цяпер усе выкрываюць, даводзяць нешта. Аднак няздольны пачуць адзін аднаго. А ўнутраныя маналогі — гэта ўжо звыш усяго па нашым часе, тайна альбо парок... Ну што ж, Андрэй Сямёнавіч, шчаслівай дарогі вам у нешчаслівую цяпер краіну дзяцінства — можна сказаць, на дно мёртвага мора.

## *Карціна VIII*

**Кантора саўгаса. На сцяне гаворыць радыё: «Пастанова Вярхоўнага Савета: Вярхоўны Савет адзначае, што аварыя на Чарнобыльскай АЭС па сукупнасці вынікаў з'яўляецца самай буйной катастрофай сучаснасці, агульнанародным бедствам, якое закранула лёс мільёнаў людзей, што жывуць на велізарных тэрыторыях». У саўгаснай канторы два мужыкі чакаюць дырэктара.**

ПЕРШЫ МУЖЫК. Нарэшце ўспалашыліся (усё роўна як перадражнівае радыё) — на велізарных тэрыторыях, агульнанароднае бедства...

ДРУГІ МУЖЫК (курыць). Здаецца, бяруцца за нас пасур'ёзнаму.

ПЕРШЫ МУЖЫК. Ды ўжо каторы год вось так, а мы ўсё загараем ды карэем тут.

ДРУГІ МУЖЫК. Скора, бадай, ужо скура пачне злазіць з касцей, як тая кара з хворых дрэў.

ПЕРШЫ МУЖЫК. Можа, камусьці гэта выгадна.

ДРУГІ МУЖЫК. Дык каму тады?

ПЕРШЫ МУЖЫК. А чорт яго ведае, каб жа знаў, дык сам бы чорта лысага з-за печкі вывалак.

ДРУГІ МУЖЫК. Але ж, нарабілі смуроду на ўсю зямлю.

ПЕРШЫ МУЖЫК. Каб жа толькі смуроду? Аднак жа ўжо і гэта добра, што адкрыта прызнаюць.

ДРУГІ МУЖЫК. Спярша людзей заразілі, тады прызнаюць. Але, яй-богу, і гэты раз каб не засталіся ў дурнях? Дапамогу, якую абяцаюць «чарнобыльцам», здаецца, таксама раскрадуць, як ужо не адзін раз здаралася.

ПЕРШЫ МУЖЫК. Але ж помню — адразу, як абнаружылі ў нас гэту радыяцыю, прыязджаў сюды адзін чалавечак. Маленькі такі, але порсткі.

ДРУГІ МУЖЫК. Здаецца, з органаў.

ПЕРШЫ МУЖЫК. Чорт жа яго ведае адкуль! Але ледва не наганам па стале. Вы, кажа, што паніку сееце. А ну-тка, на нашага дырэктара, складзіце спісак, хто ў вас агітацыяй займаецца.

ДРУГІ МУЖЫК. Ну, вядома, з органаў. Здаецца ж, не з міліцыі. Ды й навошта гэта міліцыянеру ды й у грамадзянскім, не ў форме. Дык што дырэктар?

ПЕРШЫ МУЖЫК. Ну, Антонавіча рукамі не возьмеш. Туз. Адмаўчаўся і ўсё.

ДРУГІ МУЖЫК. Але ж вось гіцля той з органаў! Здаецца, сам ужо даўно збег адсюль. Яны, здаецца, усе тыя, што прымушалі нас не панікаваць, пераехалі з заражанай зоны. Ды ўсе у вышэйшае начальства, чым былі тут, пайшлі. Ты вось пра што мне скажы, Ігнат...

**Не паспявае да канца спытаць. Заходзіць дырэктар саўгаса з АНДРЭЕМ ЛЕВАНОВІЧАМ.**

ПЕРШЫ МУЖЫК (да дырэктара). Мы гэта, Антонавіч, прыйшлі спытаць...

ДЫРЭКТАР. Пасля, пасля... Бачыш, чалавек са мной. Зямляк. Так што, альбо пачакайце, альбо другі раз.

ДРУГІ МУЖЫК. Дык... здаецца...

ПЕРШЫ МУЖЫК. Мы пасядзім, Антонавіч. Гэта не тое, што раней. Наша праца цяпер ні сабе, ні людзям. Ты займі чалавека. Дык хто ж ён, наш зямляк?

ДЫРЭКТАР. Хіба не пазнаеш?

ДРУГІ МУЖЫК. Дык... здаецца...

ДЫРЭКТАР (да Андрэя). Хадзем, Андрэй Сямёнавіч, хадзем!

**Заходзяць у дырэктараў кабінет. Дырэктар сядае за стол; Андрэй Левановіч падыходзіць да акна, глядзіць на вуліцу.**

ДЫРЭКТАР. Даўно ты ў нас не быў, Андрэй Сямёнавіч. Здаецца, з таго дня, як хавалі вашу маці.

АНДРЭЙ. Бадай, так.

ДЫРЭКТАР. А вось брат твой ужо і ў радыяцыю прыязджаў. І ведаеш, ён нам дапамог. Праўда, гэта адноснае паняцце ў нашых цяперашніх умовах, дапамога. Вунь, дапамагчы спрабуе ўся дзяржава, а воз, як кажуць, усё там жа. Толькі і прыйшлі да аднаго, што перасяляцца адсюль усё-ткі трэба. Нават месца выбралі.

АНДРЭЙ. Дзе ж?

ДЫРЭКТАР. За Бялынкавічамі.

АНДРЭЙ. Хіба там чыста?

ДЫРЭКТАР. Здаецца, чыста. Яна тут, гэтая радыяцыя, неяк лапікамі лягла на зямлю. Помніш пасёлак за Вараноўкай, дык там з пяці двароў два чыстыя, а тры брудныя.

АНДРЭЙ. Гэта — цэзій?

ДЫРЭКТАР. Так. Іншыя рэчывы... Стронцыю ў нас, здаецца, няма, а пра другія... Відаць, ёсць. Дзён колькі Эдуард Сямёнавіч выступаў па тэлебачанні. Дык казаў, што ёд, цэзій, стронцый гэта не ўсё яшчэ. Яшчэ і іншыя радыенукліды пагражаюць.

АНДРЭЙ. Чым жа памог Эдуард?

ДЫРЭКТАР. Бо першы пачаў біць трывогу. Прыязджаў, лаяўся з начальствам, пісаў у газетах. Дакладней, спрабаваў давесці, што здарылася катастрофа. Але ці ў нас жа паслухае хто? Надоўга к нам?

АНДРЭЙ. Трэба дагледзець матчыну магілку...

ДЫРЭКТАР. А што яе даглядаць? Я нядаўна быў на кладзішчы, то ваша дагледжана. Хтосьці траву выпалаў, кветкі пасаджаны.

АНДРЭЙ. Ну, усё-ткі... (Сядае на падаконнік.)

ДЫРЭКТАР. Канешне, канешне!

**Звоніць тэлефон. Дырэктар бярэ трубку.**

ДЫРЭКТАР (хмурыцца). Хто-хто? А-а-а, Ціхонаўна. Так, пісьмо я атрымаў. (Слухае.) Усё-ткі не сядзіцца там? Ну што ж, вяртайся, калі табе прыспічыла. (Слухае.) А можа, пачакаеш трохі, пакуль новыя дамы будуць гатовы? Першы... твой. (Слухае.) Не будзеш чакаць? Што ж, прыязджай, Ціхонаўна, жывем жа мы неяк тут, пражывеш і ты. (Кладзе трубку.) Жанчына наша, зарэчанская, пераехала ўсёй сям'ёй. Шукала месца ў «чыстай» зоне, а цяпер вось назад. Пытаюся, чаму? Ды няма сілы, кажа, трываць зняважлівыя адносіны. Ад «чарнобыльскіх» дзяцей адварочваюцца аднакласнікі ў школе, моў, заразныя. Здзекліва ставяцца да чужых вяскоўцы. Словам, нікому мы непатрэбны на ўсім свеце. І гэта не першы выпадак, калі пераехаўшыя сем'і просяцца назад. А я адгаворваю: моў, пачакайце. Не, кажуць, няхай радыяцыя, няхай ужо што людзям нашым, тое і нам, толькі на радзіме жыць... Бачыш, як паварочваюцца справы?

АНДРЭЙ. Па дарозе мне чалавек адзін казаў...

**Адчыняюцца дзверы. Андрэй перастае гаварыць. Глядзіць на ДРУГОГА МУЖЫКА, які высунуў галаву.**

ДРУГІ МУЖЫК. Можа, вы і праўда тут, Антонавіч, надоўга, дык...

ДЫРЭКТАР. Ну, што ў цябе?

ДРУГІ МУЖЫК. Ды, здаецца... Я пра пчолы. Ці будзем вывозіць сёлета на старую пасеку?

ДЫРЭКТАР (да Андрэя). Мы, бачыш, яшчэ трымаем пчолы. Кажуць, пчала на дурную кветку не сядзе. Выбера здаровую.

ДРУГІ МУЖЫК (усё яшчэ з парогу). Дык, здаецца... Яно так. Правяралі мёд у амбулаторыі. Даведка нават ёсць, што незаразны, здаецца...

ДЫРЭКТАР (да мужыка). Ладна, Хвядосавіч, ступай, пра пчол яшчэ рана.

ДРУГІ МУЖЫК. Ды не, Антонавіч, здаецца, не рана. Якраз пара. І ў мінулую вясну мы гэтымі днямі вывозілі.

ДЫРЭКТАР. Вясна на вясну не прыпадае. Заўтра пагаворым.

**ДРУГІ МУЖЫК зачыняе дзверы. Дырэктар чакае, што і ПЕРШЫ МУЖЫК стане лезці праз дзверы на перамовы, але не. Тады дырэктар паварочваецца да Андрэя, пачынае гаварыць.**

ДЫРЭКТАР. Ладна, Андрэй Сямёнавіч, усяго не спытаеш і не раскажаш. Перанясем асноўную праграму на вечар. Спадзяюся, заначуеш у нас?

АНДРЭЙ. Як выйдзе.

ДЫРЭКТАР. Выйдзе, выйдзе, Сямёнавіч! Ты не дужа палохайся радыяцыі. За адны суткі не з'есць. Праўда, гледзячы якога. Калі дуплаватага, дык і адных сутак хопіць з яе. Але ж ты — вайсковец. Так што, са здароўем у цябе, няйначай, няблага? Ну а мы гэту радыяцыю ўжо трохі навучыліся выганяць спіртам.

АНДРЭЙ. Гарэлка... памагае?

ДЫРЭКТАР. Так мы рашылі для сябе — памагае.

**Смяюцца.**

ДЫРЭКТАР. Табе машыну даць да кладзішча?

АНДРЭЙ. Я сам, дзякуй.

ДЫРЭКТАР. Але з кладзішча зноў прыходзь сюды, каб не дужа бадзяцца. А цяпер... мне таксама часу няма. Разумееш, адбываюцца дзіўныя рэчы. Людзі з партыі выходзяць.

АНДРЭЙ. Што ж тут дзіўнага? Іначай і не магло быць пры такім становішчы. Партыя страчвае былую ўладу.

ДЫРЭКТАР. Але ў нас парторг заяву падаў аб выхадзе. У прынцыпе я не супраць, каб выходзілі. Навошта сілай трымаць? Але зноў жа... Наш парторг выдатны чалавек. Няйначай, на яго таксама радыяцыя падзейнічала. Праходзяць гады, а мы ўсё атручваем тут людзей. Словам, атрымаў я з райкома, як член бюро, заданне пагаварыць з чалавекам.

АНДРЭЙ. Гэта ўжо канчаткова?

ДЫРЭКТАР. Што канчаткова?

АНДРЭЙ. Ну, што ён выходзіць? Дарэчы, хто ў вас парторг?

ДЫРЭКТАР. Ты яго не будзеш ведаць. Але слоў мужык на вецер не кідае. Ну, да сустрэчы .**(Падае Андрэю руку.)**

АНДРЭЙ. А можа?..

ДЫРЭКТАР **(махае рукамі).** Нічога не можа, нічога не можа! І слухаць не хачу.

## *Карціна IX*

**На ганку канторы АНДРЭЯ чакае ПЕРШЫ МУЖЫК, той, што лесніком.**

ПЕРШЫ МУЖЫК. А я цябе таксама пазнаў, Сямёнавіч, дарма што не паздароўкаўся тады. Мяне ж помніш?

АНДРЭЙ. Дзядзька Панас?

ПЕРШЫ МУЖЫК **(уздыхнуўшы).** А я думаў... зараслі мы тут **(чухае рукой па шчэці)** і састарэлі, акурат грыбы ў атамным лесе, нікому непатрэбныя. Дык і пазнаць цяжка.

**Недзе на вясковым двары чуецца крык, енкі. Андрэй паварочвае галаву ў той бок, пачынае ўслухоўвацца.**

ПЕРШЫ МУЖЫК **(махае рукой).** Ды гэта гэтак. У нас гэты канцэрт часта бывае. А тым не менш, бабу шкада. Яшчэ маладая дзеўка.

АНДРЭЙ. Што з ёй?

ПЕРШЫ МУЖЫК. Так. Чуеш, мужык крычыць, а яна лямантуе? Ды ты не хвалюйся. Мы тут часта гэта слухаем. Афганец у нас вярнуўся з вайны. Можа, помніш — Трахімаў Коля? Ды дзе ты будзеш помніць? Маладыя ўжо без цябе нараслі. Няшчасце з ім — кантузія ў галаву, аднаго скялёпка няма на чэрапе. Вось ён і заводзіцца, калі ў яго гэта пачынаецца. Словам, хвароба. Думалася, што калекі, якія з той вайны прыйшлі, апошнія ў нас, памерлі, а тут з гэтай, афганскай, новых дадалося: то рукі няма, а то й галава пашкоджана, як у гэтага.

АНДРЭЙ. А жонка прычым?

ПЕРШЫ МУЖЫК. Дык... У галаву яму абы-што лезе, хвароба такая. Ну вось ён і ганяе па двары сваю Анюту, моў, давала ўсім тут без мяне. Ну, а калі хвароба мінецца, праходзіць, то чалавеку цаны няма. Але ж — калека... Пенсію даюць. Ты, гэта, у Афгане не быў?

АНДРЭЙ. Не.

ПЕРШЫ МУЖЫК. Пашанцавала. А то ж і вайна аказалася непатрэбная нікому — ні афганцам, ні нам. Усе ад яе, здаецца, адвярнуліся. Моў, памыліліся асобныя члены Палітбюро, тыя, каго ўжо няма ў жывых. А тут калекі...

АНДРЭЙ. Ну што ж, дзядзька Панас, рады быў сустрэць. Мне на могілкі трэба.

ПЕРШЫ МУЖЫК. Да маці?

АНДРЭЙ. Так.

**Сыходзіць з ганку.**

ПЕРШЫ МУЖЫК. Я таксама на службе, Сямёнавіч. А тым не менш, спяшацца быццам бы і няма куды.

АНДРЭЙ. Па-ранейшаму, лесніком?

ПЕРШЫ МУЖЫК. Так, так, лесніком. Але цяпер... Словам, як лес наш зрабіўся атамны, служба стала так сабе. Адно званне, што ляснік. Хоць сасна, хоць елка, а нікому непатрэбны ўжо. Нават і на дровы, бо радыяцыя ад іх у паветра ўздымаецца. Грыбы таксама не станеш есці, як і ягады. Вось і вандрую дарэмна вакол лесу, баючыся зайцы ў яго. Але ўжо што праўда, то праўда — зладзеі ў нас, здаецца, перавяліся ад гэтай радыяцыі. І ў лесе больш не крадуць, і ў вёсцы.

АНДРЭЙ. А грошы табе плацяць, як і раней?

ПЕРШЫ МУЖЫК. Гэта плацяць. Ды з надбаўкай, як усім. Грабавыя. Нябось, можа, і не чуў нават, што такія грошы ёсць?

АНДРЭЙ. Чуў. Што ж ты ў канторы хацеў?

ПЕРШЫ МУЖЫК. Ды я гэта з пчаляром гэтым, а тут цябе пабачыў з дырэктарам. Хачу спытаць, Сямёнавіч, гэта ж брат твой старшы, здаецца, у вялікіх начальніках цяпер ходзіць?

АНДРЭЙ. Які ён начальнік. Прафесар.

ПЕРШЫ МУЖЫК. Ну ўсё-ткі прафесар. А вось мой унук у медыцынскім. Сёлета канчае.

АНДРЭЙ. І што?

ПЕРШЫ МУЖЫК. Дык сам ведаеш — медык, а медыкаў цяпер у зону гоняць. Асабліва тых, што з вёскі самі ці з тутэйшага горада. Ці нельга неяк пасадзейнічаць, каб унука майго не чапалі. Ну, няхай я тут, дык мне, мусіць, наканавана так, а навошта яму раней часу паміраць?

АНДРЭЙ. Ты б напісаў, дзядзька Панас, Эдзіку пра ўнука. Я нічым памагчы не магу. Нават цяпер не буду заязджаць. Ды і Эдзік наўрад ці дапаможа.

ПЕРШЫ МУЖЫК. Значыць, не можа?

АНДРЭЙ. Не.

ПЕРШЫ МУЖЫК. А я думаў — дай падыду. Праз цябе папрашу. Цяпер — бачу — дарэмна, Сямёнавіч. Ну, бывай. А з пчоламі яны таксама дарэмна. Нічога ўжо чыстага ў нас не будзе — ні мёду, ні хлеба, ні вады... Усё Чарнобылем атручана. Во нарабілі людзі, дык нарабілі. **(Ідзе.)**

**Андрэй яшчэ колькі часу глядзіць услед лесніку, тады рушыць у другі бок па вясковай вуліцы. Зноў чуецца над вёскай жаночы енк. Крычыць, пагражае мужчына.**

## *Карціна X*

**Вясковыя могілкі. Крыжы — найбольш драўляныя, чорныя, струхлелыя. На гранітным помніку літары: «Кацярына Ягораўна Левановіч». Да магілы падыходзіць АНДРЭЙ: сядае на лавачку, здымае фуражку. Падыходзіць жанчына — мясцовая настаўніца ДЗІНА ДАВЫДАЎНА.**

ДЗІНА ДАВЫДАЎНА. Не перашкоджу, Андрэй Сямёнавіч?

АНДРЭЙ **(устае з лавачкі).** Не, Дзіна Давыдаўна, не перашкодзіце.

ДЗІНА ДАВЫДАЎНА. А я цябе яшчэ ля саўгаснай канторы ўбачыла. Думаю, хто гэта з лесніком размаўляе? А потым пазнала.

АНДРЭЙ. А я вось...

ДЗІНА ДАВЫДАЎНА. Гэта добра, што матчыну магілу не забываеце. Ці не мінулым годам прыязджаў брат, цяпер — ты вось.

АНДРЭЙ. Я даўно ўжо не быў у вёсцы.

ДЗІНА ДАВЫДАЎНА. Чаму ж? Хіба такі заняты?

АНДРЭЙ. Баяўся прыязджаць, Дзіна Давыдаўна.

ДЗІНА ДАВЫДАЎНА. Радыяцыі баяўся? А мы вось жывём пакуль. Праўда, некаторыя таксама спалохаліся. Падаліся хто куды. А я вось хоць і адна, але жыву пакуль. Сястра паехала ў Ізраіль, а я засталася. Пра ўсё людзі могуць забыць, але каб не вучыць дзяцей? Ды чаго ты баішся, радыяцыі?

АНДРЭЙ. Не, не радыяцыі баюся. Хоць... прычынай майго страху сапраўды з'яўляецца радыяцыя. Віна вялікая на мне.

ДЗІНА ДАВЫДАЎНА. Нешта ты загадкамі гаворыш. Зрэшты, у каго няма цяпер віны?.. І ўсё-ткі я цябе не разумею, Андрэй Сямёнавіч. Вось ты сказаў. як пажартаваў, а ў мяне сэрца раптам усё роўна як зрушылася з месца.

АНДРЭЙ. Прабачце, Дзіна Давыдаўна.

ДЗІНА ДАВЫДАЎНА. Што тут прабачаць? Я рада бачыць цябе. Ты ж лепшы вучань быў у класе. А такія чалавечыкі ў настаўніка ў памяці. Усе вы, Левановічы, малайцы. Вось нядаўна Эдзіка бачыла, выступаў па тэлебачанні.

АНДРЭЙ. Я таксама слухаў.

ДЗІНА ДАВЫДАЎНА. А ўсё-ткі — жахліва гэта ўсё!.. Дзе ты спыніўся? Хата ж ваша, відаць, сырая стаіць, нятопленая?

АНДРЭЙ. Не хадзіў.

ДЗІНА ДАВЫДАЎНА. Тады, можа, да мяне ў школу пойдзеш?

АНДРЭЙ. Не, я дырэктару абяцаў.

ДЗІНА ДАВЫДАЎНА. Ну што ж... Дырэктару дык дырэктару... Але бачыш, за могілкамі ў нас яшчэ даглядаюць. Пра сябе людзі цяпер менш клапоцяцца, а вось продкам... Чуў? На будучы год пераязджаем усёй вёскай на новае месца? Нікому ўсё гэта не спатрэбіцца. Мёртвыя самі па сабе, жывыя самі. Я ўсё-ткі, няйначай, перашкодзіла табе?

АНДРЭЙ. Дальбог, не.

ДЗІНА ДАВЫДАЎНА. Але ж і не падысці да былога вучня... Як гэта? Так што, выбачай. А можа, усё-ткі зойдзеш да мяне? Ну хоць бы і пасля дырэктара. А то неяк у нас...

АНДРЭЙ. Добра, прыйду. Ну, а гаворка?.. Дык гэта я вінаваты.

ДЗІНА ДАВЫДАЎНА. Што ты ўсё з віной? Гэта выгляд матчынай магілы на цябе падзейнічаў.

АНДРЭЙ. Не. **(Разводзіць рукамі, паказвае).** Усё гэта!.. **(Пачынае выціраць рукой куточкі вачэй.)**

ДЗІНА ДАВЫДАЎНА **(бярэ Андрэя за локаць).** Э-э, не, Андрэй. У такім стане хадзем лепей да мяне. А то што ў дырэктара саўгаса — зноў п'янка? Не была б я твая старая настаўніца, каб вось так пакінула аднаго. Ну, а паплакаць? Дык на матчынай магіле нават з каменнай душой чалавек адтайвае. Таму не саромся. Лічы, мяне тут не было. Ці, можа, хочаш яшчэ пабыць адзін?

АНДРЭЙ. Так.

ДЗІНА ДАВЫДАЎНА. То і ладна. Я вось загляну ў адно месцейка, а тады сюды вярнуся. Згода?

**Андрэй насуплена ківае галавой. Настаўніца адыходзіць.**

## *Карціна XI*

**Зноў той жа чыгуначны вакзал.**

**АНДРЭЙ толькі што сышоў з цягніка. Як і ў мінулы раз сярод людзей тоўпіцца наш знаёмы ПІСЬМЕННІК.**

ПІСЬМЕННІК **(бачыць Андрэя).** Добры дзень, таварыш Левановіч. Прызнацца, я чакаў вас пазней.

АНДРЭЙ. Можна падумаць, што вы з таго дня, як мы сустракаліся, і не пакідалі гэтага вакзала?

ПІСЬМЕННІК. О не, мой малодшы сябра. Я з таго часу паспеў аб'ездзіць усе Злынкі і свету палавінкі. Чулі такі выраз?

АНДРЭЙ. Не.

ПІСЬМЕННІК. Вось і я дасюль не чуў.

АНДРЭЙ. А што яшчэ тут можна пачуць, Павел Дзямідавіч?

ПІСЬМЕННІК. Каб чуць народ, трэба вельмі слухаць. Але нешта вы дужа расхрыстаны, Андрэй Сямёнавіч? Жахліва там, на дне мёртвага мора?

АНДРЭЙ. Так, прыехаў, можна сказаць, расхрыстаны — узнерваваны і абыякавы.

ПІСЬМЕННІК. Хіба так бывае — узнерваваны і абыякавы? М-да, Андрэй Сямёнавіч, хтосьці ўсё-ткі пацэліў у сэрца славянскага адзінства ў нашай краіне. Тут жа самае сэрца старажытнарускай дзяржавы. Тут у адно сыходзяцца землі Расіі, Украіны, Беларусі. Такі тут трохкутнік паміж Чарнігаўшчынай, Браншчынай і Беларуссю. І ўсё-ткі, хадземце ў гасцініцу. Там і пагаворым.

АНДРЭЙ. Не, я мушу ехаць.

ПІСЬМЕННІК. На службу? Хто цяпер спяшаецца на службу? Я ўчора званіў вашаму брату. Размаўляў з Людмілай Міхайлаўнай. Вельмі прасіла, каб я прывёз вас.

АНДРЭЙ **(панура).** Што мне там рабіць?

ПІСЬМЕННІК. Значыць, ні к брату, ні ў гасцініцу да мяне?

АНДРЭЙ. Паеду адсюль. На Унечы перасяду на другі цягнік і даеду.

ПІСЬМЕННІК. Хіба не ўгавару?

АНДРЭЙ, Думаю, што не.

ПІСЬМЕННІК. Тады хадземце ў піўніцу. Сёння піва прадаецца. Праўда, гарэлкі няма. Але ж сухі закон паступова страчвае сілу. Яшчэ адна дурная сацыялістычная задума — адвучыць людзей піць! Тых людзей, якія, бадай, з малаком маці да алкаголю прывыкаюць!

**Заходзяць у піўніцу. Павел Дзямідавіч падаецца да буфета, прыносіць адтуль да століка, які выбраў Андрэй Левановіч, куфлі з півам: спярша два, пасля зноў два. Пачынаюць трохі піць ды працягваць ціхую размову.**

АНДРЭЙ. Вось вы, Павел Дзямідавіч, усё ацiраецеся на беразе гэтага мёртвага мора, а на дно не ныраеце?

ПІСЬМЕННІК. Было, што нырaў. Нават учора. Так што ў вас, Андрэй Сямёнавіч, няправільнае ўяўленне пра мяне. Памятаеце: «І ўзяў я кніжку з рук... і з'еў яе; і яна ў вуснах маіх была салодкая, як мёд; калі ж з'еў яе, то горка зрабілася ва ўтробе маёй. І сказаў ён мне: табе трэба зноў прарочыць...»

АНДРЭЙ. Прарочыць? Я так разумею — пісаць?

ПІСЬМЕННІК. Не толькі гэта. Там, у Біблii, яшчэ сказана ў Івана Багаслова: «...Прарочыць аб народах і плямёнах, і языках і аб царах многіх...»

АНДРЭЙ. З'ездзілі б вы да нас у вёску? Там сакратар парткома саўгаса з партыі выходзіць.

ПІСЬМЕННІК. Андрэй Сямёнавіч, Андрэй Сямёнавіч, каго цяпер гэтым здзівіш?

АНДРЭЙ. І ўсё-такі.

ПІСЬМЕННІК. Нарэшце, наcталі ўмовы пазбавіцца ад сяго-таго, дык вы трывогу пачынаеце біць.

АНДРЭЙ. Але тады скажыце выразней — па кім цяпер звон б'е?

ПІСЬМЕННІК. Па нас, па ўсіх нас, Андрэй Сямёнавіч. Значыць, штосьці ў чалавеку адбываецца. З кімсьці альбо з чымсьці ў супярэчнасць прыйшоў.

АНДРЭЙ. Я пытаўся ў яго, але ж...

ПІСЬМЕННІК. Гэта цяпер не дужа хітрая справа — аддаць білет!.. Але ці гэтым дапаможаш захварэўшаму грамадству? Справа не ў партыях.

АНДРЭЙ. Тады чаму, другія партыі растуць і множацца?

ПІСЬМЕННІК. Я ж кажу, справа не ў партыях.

АНДРЭЙ. А ў чым?

ПІСЬМЕННІК. У тым жа захварэўшым грамадстве. Сучаснае духоўнае жыццё адчувае на сабе найбольшыя перагрузкі. Мы ўсе помнім, што пачыналі перабудову з пераробкі свядомасці, але мала задумаліся над тым, што менавіта пагэтаму ў гэтай сферы «развітання з мінулым» прасунуліся далей за ўсё. Хіба не дзіўна, што аб грамадстве, якое ніколі не жыло пры сапраўдным сацыялізме, гавораць, што яно ў ім расчаравалася... Зразумела я кажу?

АНДРЭЙ. Так.

ПІСЬМЕННІК. Справа не ў Марксе, а тым больш не ў Леніне. У нас заўсёды ў іхніх поглядах штосьці замоўчвалася, штосьці скажалася, штосьці забаранялася, а штосьці раздзімалася. Але заўсёды гэта рабілася так, як гэта было неабходна камусьці. Напрыклад, такім шляхам знікала розніца паміж эксплуатацыяй і прыгнётам, паміж абагульненнем і адзяржаўліваннем, што было вельмі важна для кіруючай бюракратыі.

ПІСЬМЕННІК. Я вось што скажу, Андрэй Сямёнавіч. Дваццатае стагоддзе, у якім нам з вамі давялося жыць...

АНДРЭЙ. Калі ласка...

ПІСЬМЕННІК **(глядзіць на Андрэя).** Ну ды ладна. Падмануў ён нас, дваццаты век, ва ўсім. Можна сказаць, пралящеў для чалавецтва ўпустую.

АНДРЭЙ. Ну-ну...

ПІСЬМЕННІК. З'явіўся ў нас марксізм, а ў канцы веку... Ва ўсякім выпадку — сёння марксізм пастаўлены пад сумненне. Цяпер возьмем першую сусветную вайну. Што яна дала? Кроў, смерць і Кастрычніцкую рэвалюцыю? Дык цяпер людзі схільны думаць, што рабілі яе бальшавікі дарэмна. Другая сусветная? Што яна дала чалавецтву ў канчатковым выніку? Таксама, акрамя крыві ды смерці... Праўда, была закрыта дарога фашызму ў свеце, але ж... і сацыялізм, бачыце, цяпер некаторыя параўноўваюць з фашызмам. Ва ўсякім разе, ва ўсходняй Еўропе яго ўжо няма. Якраз у тых краінах, якія мы ратавалі ў вайну ад фашызму. Ну а цяпер што тычыцца атамнай энергіі. Назвалі дваццаты век атамным, а ў рэшце рэшт атрымалі Чарнобыль...

АНДРЭЙ. Куды ж далей, Павел Дзямідавіч?

ПІСЬМЕННІК. У дваццаць першы век, Андрэй Сямёнавіч. Назад дарогі няма. **(Маўчыць, тады пытае.)** А што вы нагаварылі Людміле Міхайлаўне? Што сказалі такое, чаго яна баіцца? Прасіла мяне па тэлефоне, каб я паглядзеў за вамі.

АНДРЭЙ. Хочаце ведаць, Павел Дзямідавіч?

ПІСЬМЕННІК. Вядома...

АНДРЭЙ. Людзі кажуць, што тутэйшыя мясціны заражаны радыяцыяй з самалёта. Чулі?

ПІСЬМЕННІК. Ну, чуў.

АНДРЭЙ. Дык гэта зрабіў я! Я стварыў гэта мёртвае мора!

ПІСЬМЕННІК. Пачакайце, Андрэй Сямёнавіч, штосьці не тое вы гаворыце!

АНДРЭЙ. Якраз тое!

ПІСЬМЕННІК. Пачакайце, пачакайце. Нявестка ваша гаварыла... Але ж не думалася, што вас... Пастойце, пастойце, таварыш капітан...

АНДРЭЙ. Таму зразумейце, Павел Дзямідавіч,— куды мне адсюль? Тут не толькі ваш бераг, але і мой. Не памінайце хоць вы мяне злым словам!..

**Павел Дзямідавіч глядзіць утрапёна на лётчыка, які прабіраецца паміж столікамі да выхаду, хоча гукнуць назад, але бяссільна апускае руку.**

## *Карціна XII*

**Гасцініца ў раённым горадзе. ПАВЕЛ ДЗЯМІДАВІЧ сядзіць за сталом, корпаецца ў паперах. Стук у дзверы.**

ПІСЬМЕННІК. Калі ласка, заходзьце.

**Заходзіць МІЛІЦЫЯНЕР у афіцэрскім званні і яшчэ ЦЫВІЛЬНЫ**

МІЛІЦЫЯНЕР. Таварыш пісьменнік, пракурор раёна прасіў вас нікуды не адлучацца з горада.

ПІСЬМЕННІК. А што здарылася, што я спатрэбіўся пракурору? Што, пачаўся ўсеагульны арышт?

МІЛІЦЫЯНЕР. Вы ведаеце такога лётчыка, капітана Левановіча?

ПІСЬМЕННІК. Так, гэта мой знаёмы. А што?

МІЛІЦЫЯНЕР. Яго знайшлі мёртвага. Нам сказалі, што вы сустракаліся з ім. Таму... Словам...

ПІСЬМЕННІК. Ах ты, гора! Ах ты, бяда!

МІЛІЦЫЯНЕР. Вы не ведаеце прычыну, чаму ён пакончыў з сабой.

ПІСЬМЕННІК. Прычыну? Але пачакайце, нешта я не разумею, Андрэй Левановіч пакончыў з сабой? Але ж ці толькі ён?.. Хіба адзін ён вінаваты?

**Сноп святла выхоплівае на сцэне маленькага АНДРЭЯ ЛЕВАНОВІЧА. Побач, як на вісельні, падвешаны рамкі для партрэтаў. Але саміх партрэтаў няма. Пустыя рамкі...**

